наша
свабода

№11(238) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

30 СТУДЗЕНЯ
2002 году
СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103
тэл. 284-36-53
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

ВЕСТКІ



## Падаражэў праезд

З 1 лютага ў Мінску падаражэе праезд у грамадскім транспарце. Квіток на адну паездку ў метро, аўтобусе, тралейбусе ці трамваі будзе каштаваць 120 рублёў, льготны – 60 рублёў, у кіроўцы – 150 рублёў. Праязны білет на чатыры віды падаражэе да 9 600 рублёў. Цягам году праезд у грамадскім транспарце мусіць падаражэць яшчэ болей.

## Саракавіны каля КДБ

Актывісты руху «Зубр» адзначылі 28 студзеня саракавіны свайго паплечніка Андрэя Зайцава, які скончыў жыццё самагубствам, як лічаць «зубраўцы», пад ціскам КДБ. Моладзь выстраілася на праспекце Скарыны ў Мінску каля будынку КДБ жывым ланцугом са свечкамі ў руках.

## Прэзідэнт стралкоў

У Беларускім стралковым саюзе аднагалосна абраны новы прэзідэнт. Ім стаў міністр абароны Беларусі Леанід Мальцаў.

## Вынікі прыватызацыі за 10 гадоў

Па звестках міністэрства эканомікі Беларусі, за перыяд з 1991 да 2002 году ў краіне было раздзяржаўлена альбо часткова прыватызавана 3 470 аб'ектаў, з іх 855 – рэспубліканскай уласнасці і 2.615 – камунальнай. На прыватызаваных прадпрыемствах працуе сёння 750 тысяч чалавек.

## Кавальская выстава

5 лютага ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску адкрыецца выстава мастака-каваля з Гродна Юрася Мацко «Крыга».

## Ліфтавая станцыя для беларускіх хмарачосаў

На сталічным заводзе «Калібр» выпусцілі першую партыю новых станцыяў кіравання ліфтамі. Яны могуць дзейнічаць да 30-га паверху. Старыя станцыі працавалі да 17-га паверху.

## Не плацяць за энергію

Па звестках прэс-службы канцэрну «Белэнерга», за першыя тры тыдні гэтага году ўзровень аплаты за адпушчаныя энергарэсурсы склаў 25,8% супраць 41,9% за аналагічны тэрмін летась. Агульны доўг спажыўцоў узрос на 23,9% і склаў 484,5 млн. даляраў. У выніку жорсткіх санкцыяў амаль тысяча прадпрыемстваў, якія запасычыліся за энергію, былі абясточаныя альбо абмежаваныя ў пастаўках энергіі.

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»

1685

## Лябедзька лічыць сябе абвінавачаным

Пасля з'яўлення ў пракуратуры Савецкага раёну Мінску лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька абвясціў сябе абвінавачаным па справе аб паклёпе на прэзідэнта.

27 лістапада 2001 году Пракуратура Беларусі ўзбудзіла крымінальную справу па артыкуле 367, ч. 1 Крымінальнага кодэксу – па факце «паклёпу ў дачыненні да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», які нібыта змяшчаўся ў артыкуле «*Бандиты финансируют белорусский режим*» («Народная Воля», 1 лістапада 2001 г.). У гэтым матэрыяле старшыня АГП заявіў наступнае: «*Беларусь давно поставляет оружие одиозным недемократическим режимам. Торговля оружием является одним из приоритетных направлений Лукашенко... Этот бизнес находится под его личным контролем. И тот, кто решится встать на дороге Лукашенко в этом вопросе, просто обречен*».

Следчы пракуратуры Савецкага раёну Мінску Іван Зеляноўскі 28 студзеня выклікаў А.Лябедзьку на допыт у якасці сведкі па гэтай справе. «У кабінет следчага я ўвайшоў як сведка па крымінальнай справе, а выйшаў у якасці абвінавачанага», - кажа лідэр аб'яднаных грамадзянаў. Па яговых словах, следчы не сказаў ні слова супраць, калі А.Лябедзька назваў сябе абвінавачаным, а не сведкам.

Аднак паведамлення пракуратуры пра ўзбуджэнне крымінальнай справы супраць А.Лябедзькі за паклёп у дачыненні да прэзідэнта пакуль ніхто не бачыў.

**Рыгор БУЯН, Ірына СТАРЦАВА**

# Жабракоў высяляюць на Бангалор




*Мінскі гарвыканкам дазволіў левым партыям выказаць свой пратэст супраць падзення жыццёвага ўзроўню толькі на ўскрайку Мінску — на плошчы Бангалор.*

Згодна з атрыманым адказам, сталічная «вертыкаль» дала дазвол лідэрам Партыі камуністаў Беларускай – Сяргею Калякіну, Беларускай партыі працы – Аляксандру Бухвоставу ды лідэру БСДП (Народная Грамада) – Міколу Статкевічу правесці пікет «з мэтай выказвання пратэсту супраць падзення рэальных даходаў насельніцтва, імклівага росту цэнаў на прадукты, тавары і паслугі першай неабходнасці» на плошчы Бангалор: 31 студзеня пікет колькасцю ўдзельнікаў да 100 чалавек пройдзе з 15.00 да 18.00.

Паводле статыстыкі, цэны летась выраслі на 46,1%. Мяса і мясапрадукты ў снежні 2001 году каштавалі на 42,7% болей, чым у снежні 2000-га, малако і малочныя прадукты – на 78,2%, яйкі – на 67,8%. Тарыфы на перавозку пасажыраў чыгункай узраслі ў два разы.

Таму акцыя левых мае выразна эканамічны характар і пройдзе пад лозунгамі: "Дзе абяцаная зарплата ў 100 даляраў?", "Не – росту цэнаў!", "Не – платнай медыцыне!", "Заробак і пенсіі – на ўзровень цэнаў".

Акцыі пратэсту пройдуць таксама ў абласных цэнтрах і іншых буйных гарадах Беларусі. Аднак у шэрагу рэгіёнаў «вертыкаль» забараніла правядзенне масавых акцыяў. Напрыклад, старшыня Лідскага гарвыканкаму В.Малец забараніў пікет насупраць будынку гарвыканкаму на той падставе, што «ўказаная ў вашай заяве мэта пікетавання не актуальная».

**Рыгор БУЯН**

## Назаўсёды ў гісторыі

Старшыня Камісіі Кангрэсу ЗША па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе сенатар Бен Кэмпбэл прапанаваў унесці ў афіцыйныя запісы Кангрэсу артыкул з газеты «Вашынгтон Пост» за 3 студзеня пад назвай "Еўрапейскі арсенал для тэрарызму", дзе сцвярджалася, што Беларусь употай дзейнічае як адзін з галоўных пастаўшчыкоў зброі ісламскім радыкальным групоўкам.

У сваёй прамове Кэмпбэл падкрэсліў, што абвінавачванні ў бок беларускага ўраду, якія ўтрымліваюцца ў артыкуле «Вашынгтон Пост», паўтінны нагадаць Злучаным Штатам аб неабходнасці падтрымкі дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі, якую сенатар назваў «апошняй дыктатурай Еўропы».

**БелаПАН**




# Юлія Цімашэнка ў цяжкім стане

*Юлія Цімашэнка – экс-віцэ-прэм'ер Украіны, адзін з лідэраў украінскай апазіцыі, кіраўніца выбарчага блоку, які носіць яе імя, – трапіла ў аўтамабільную аварыю і ў цяжкім стане дастаўлена ў шпіталь.*

У аўторак каля 10:00 па мясцовым часе «Мерседэс» Цімашэнкі сутыкнуўся з «Жыгулямі» на Паркавай алеі, каля спуску на Дняпроўскую набярэжную. Па ўдакладненых звестках, на скрыжаванні «Жыгулі» другой мадэлі ўрэзаліся ў «Мерседэс», перадае *Magnolia-TV.com.*

Супрацоўнікі ДАІ, якія працуюць на месцы здарэння, ад каментароў пакуль устрымліваюцца, але, як паведамляе карэспандэнт «Інтэрфаксу», мяркуючы па ўсім, гэта было лабавое сутыкненне. Па яговых словах, у «Мерседэса-500» Цімашэнкі разбітая фара і моцна пашкоджана правае крыло, у «Жыгулёў» разбітая ўся пярэдняя частка. Гэты адрэзак трасы кіроўцы ведаюць як аварыйна небяспечны, дадае агенцтва.

Згодна з вынікамі папярэдняга расследавання, якія сталі вядомыя *Magnolia-TV.com,* вінаваты ў аварыі кіроўца «Мерседэсу» – звесткі пра гэта абнародаваў начальнік Цэнтру грамадскіх сувязяў Галоўнага ўпраўлення ўкраінскага МУС па Кіеве Аляксандр Зарубіцкі. У той жа час у прэс-службе «Блоку Юліі Цімашэнкі» паведамілі, што ў сутыкненні вінаваты кіроўца «Жыгулёў» — ён нібыта выехаў на скрыжаванне на чырвонае святло і на высокай хуткасці ўрэзаўся ў правае крыло «Мерседэсу». Якраз з гэтага боку і сядзела Цімашэнка.

Акрамя таго, стала вядома, што за рулём «Жыгулёў» быў грамадзянін Украіны, 32-гадовы мужчына, па знешнім выглядзе выхадзец з Каўказу.

Паводле звестак, якія ёсць на гэты час, Цімашэнка атрымала сур'ёзныя траўмы галавы і грудной клеткі і на «хуткай дапамозе» дастаўлена ўва ўрадавую клініку ў Феафаніі. Дактары падазраюць у пацярпелай страсенне мазгоў. Паведамляецца, што ў выніку аварыі шпіталізавана толькі Цімашэнка.

З аўторка, 29 студзеня, Цімашэнка знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе. Крымінальная справа ў дачыненні да Юліі Цімашэнкі была ўзбуджана на пачатку мінулага году. Ёй інкрымінавалася спроба кантрабанды расійскага газу і падлог дакументаў. Крыху пазней ёй было прад'яўлена яшчэ адно абвінавачанне – у паўторнай дачы хабару былому прэм'еру Украіны Паўлу Лазарэнку. Аднак у верасні таго ж году з Юліі Цімашэнкі і яе мужа Аляксандра, які быў адным з кіраўнікоў карпарацыі «Адзіныя энергетычныя сістэмы Украіны», абвінавачанні былі знятыя.

**Lenta.ru**

# На мяжы «пасуць» каровы

Яшчэ адну праблему гаспадарчага характару спрабуе вырашыць адміністрацыйным ціскам брэсцкая абласная «вертыкаль». У мінулы панядзелак на паседжанне выканаўчага камітэту выклікалі кіраўнікоў упраўленняў КДБ, міліцыі, мытні, атрадаў памежнікаў з Брэсту і Пінску. Гаспадарнікі запатрабавалі ад іх справаздачы аб выніках адмысловых аперацый па спыненні вывазу на тэрыторыю суседніх абласцей Украіны буйной рагатай жывёлы.

Паводле перапісу, праведзенага сельсаветчыкамі, вясковыя жыхары цягам мінулага году выгадавалі для продажу амаль 50 тысяч галоў буйной рагатай жывёлы. Калгасы, райспажыўсаюзы і мясакамбінаты закупілі толькі 73% ад гэтай колькасці. А паколькі разлічваюцца яны несвоечасова і яшчэ застаюцца вінныя 40 000 000 рублёў, то людзі шукаюць альтэрнатыўны рынак, найчасцей на Украіне. Мясцовая ўлада, аднак, працівіцца гэтай эканамічнай інтэграцыі з суседзямі, і таму на беларуска-ўкраінскай мяжы ўзмацняецца абарончы кардон. У рашэнні аблвыканкаму ад 28 студзеня 2002 году «Аб мерах па выкараненні незаконнага перамяшчэння жывёлы праз дзяржаўную мяжу» прадугледжваюцца дадатковыя меры пільнасці з боку ўсіх так званых сілавых структураў рэгіёну. У прыватнасці, у Кобрынскім, Маларыцкім, Іванаўскім, Пінскім, Столінскім раёнах камерсантаў з Украіны і Беларусі могуць затрымаць за парушэнне правілаў уезду ў памежныя зоны. Гэта, па сутнасці, дазваляе нават участковаму затрымліваць перавозчыка жывёлы і арыштоўваць ягоны груз.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Азаронка задаволілі

Мінскі гарадскі суд адмяніў рашэнне суду ніжэйшай інстанцыі па справе старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі і аўтара праграмы «Тайныя спружыны палітыкі» Беларускага тэлебачання Юрыя Азаронка. Суд Першамайскага раёну сталіцы месяц таму, разглядаючы іск А.Лябедзькі да Ю.Азаронка і БТ аб знявазе гонару і годнасці, прызнаў апошніх вінаватымі і абавязаў іх сплаціць лідэру АГП кампенсацыю ў памеры адпаведна 400 і 600 тысяч рублёў. Калегія па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суду задаволіла скаргу Юрыя Азаронка на гэтае рашэнне, палічыўшы, што словы Азаронка ў «Тайных спружынах» пра тое, што Лябедзька нібыта прывёз з Польшчы і прыўлашчыў 8 500 даляраў, – не сцверджанне, а проста меркаванне.

**Кірэй МАНУЙЛА**

СУСЕДЗІ

# Пагоны жанчыне

23 студзеня міністр абароны Літоўскай Рэспублікі ўручыў пагоны палкоўніка-лейтэнанта Ліне Лаяўскене, 45-гадовай дырэктарцы бюджэтна-фінансавага дэпартаменту абароннага ведамства. Гэтак упершыню за ўсю гісторыю літоўскага войска, пачынаючы з 1918 году, званне палкоўніка-лейтэнанта прысвоена жанчыне. Трэба сказаць, што такое званне мала хто мае ў войску Літвы, трохі болей за сем дзесяткаў вайскоўцаў. А ўсяго ў літоўскім войску служаць 222 жанчыны ў афіцэрскім чыне.

**Віктар КОРЗУН**

# У Шчучыне закрываюцца бальніцы

Сёлета з 1 сакавіка скарачаецца колькасць бальнічных месцаў у Шчучынскім раёне (Гродзенская вобласць). Зараз у раёне з насельніцтвам больш за 60 000 чалавек налічваецца 121 ложак на 10 000 жыхароў.

Усяго ж плануецца скараціць 115 месцаў у бальніцах, бо цяперашняя іх колькасць значна перавышае неабходную, а іх утрыманне эканамічна немэтазгоднае і складанае для раённага бюджэту, які атрымлівае датацыі з абласнога.

Пасля скарачэння на 10 000 жыхароў раёну будзе прыпадаць 104 ложкі. Мяркуецца зачыніць тры ўчастковыя бальніцы: Каменскую, Ражанкаўскую і Берштаўскую, зачыніцца дзіцячае і значна скароціцца хірургічнае аддзяленні Астрынскай бальніцы.

Скарачэнне пагражае беспрацоўем значнай колькасці медыцынскіх работнікаў. Незадаволенае падобнай ініцыятывай і насельніцтва, бо непакоіцца, што атрымаць медыцынскую дапамогу будзе больш складана.

**Васіль БЯЗМЕН**

ТЭНДЭНЦЫІ

# Не плацяць Венгрыі і Малдове

Яшчэ ніводнага кантракту не заключыў сёлета Брэсцкі аблсельгасхарч на цэнтралізаваную пастаўку насення кукурузы. А чарговая спроба знайсці паразуменне з былымі партнёрамі ў Венгрыі скончылася безвынікова, бо беларускі бок скампраметаваў сябе як неплатаздольны кампаньён — з вясны 2001 году венгры не атрымалі грошы за больш як 150 тонаў насення кукурузы. Аналагічная сітуацыя складаецца і ў стасунках з малдаўскім вытворчым аб'яднаннем «Парумбень». Атрымаўшы пад фінансавую гарантыю аблвыканкаму пасяўны матэрыял для 60 тысячаў гектараў, калгасы мусілі ўвосень разлічыцца калі не грашыма, то збожжам ці бульбай. Ураджай, аднак, зноў не ўдаўся, і ўжо страціліся апошнія спадзяванні на тавараабмен. З грашыма яшчэ горш, бо, паводле падлікаў, агучаных цяпер старшынёю Брэсцкага абласнога камітэту па сельскай гаспадарцы і харчаванні Якавам Бухавецкім, дэфіцыт дзяржзнакаў на пасяўную складае 53 мільярды рублёў.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# У Беларусі ўсё больш «іншамарак»

Па ацэнках спецыялістаў, колькасць новых аўтамабіляў замежных марак, завезеных на тэрыторыю Беларусі ў 2001 годзе, склала каля 3 тысяч адзінак і ў параўнанні з 2000 годам узрасла на 10-11 працэнтаў. Пра гэта ўвечары 28 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску заявіў Аляксандр Савіцкі — намеснік генеральнага дырэктара па збыце замежнага прадпрыемства «Атлант-М Фарцойгхандэль», імпарцёра нямецкага канцэрну «Фальксваген» у Беларусі і ў Калінінградскай вобласці Расіі.

Паводле словаў Савіцкага, асноўны прырост новых аўтамабіляў замежнай вытворчасці адбыўся за кошт павелічэння паставак у Беларусь недарагіх легкавых аўтамабіляў. Ён заявіў, што ва ўмовах росту продажаў генеральнаму імпарцёру «Фальксвагена» ўдалося захаваць свае пазіцыі на рынку новых аўтамабіляў замежнай вытворчасці. Як і летась, у 2001 годзе гэтая доля склала 23-23,5 працэнта. Што датычыцца прыярытэтаў пакупнікоў сярод мадэляў новых аўтамабіляў «Фальксваген», дык тут лідзіруе «Пасат» — 50 працэнтаў, за ім ідуць «Бора» – 22%, «Гольф» — 15%, «Шаран» — 9%, «Пола» — 3% і 1% – «Нью Бітл».

Акрамя гэтага, прадстаўнікі кіраўніцтва ЗП «Атлант-М Фарцойгхандэль» на прэс-канферэнцыі афіцыйна аб'явілі аб тым, што з пачатку 2002 году на тэрыторыі Беларусі ўведзена сістэма двухгадовай рэгіянальнай гарантыі на аўтамабілі «Фальксваген». З гэтай даты гарантыйны тэрмін на ўсе новыя аўтамабілі «Фальксваген», якія прададзены дылерамі канцэрну ў Беларусі, складае 2 каляндарныя гады або 100 тысяч кіламетраў прабегу.

**Аляксей АРЭШКА**

# Створаны лічбавы святлафор

Супрацоўнікі Магілёўскага інстытуту оптыкі і заводу «Тэхнапрыбор» сумесна распрацавалі эксперыментальную мадэль новага святлафора. Ад старых мадэляў новая распрацоўка адрозніваецца эканамічнасцю і выкарыстаннем лічбавых тэхналогій. Новы святлафор спажывае энергіі прыкладна ў 10 разоў менш, чым лямпавы. Акрамя таго, прадугледжваецца, што на жоўтым сектары лічбавага святлафора будуць адлічвацца секунды, якія засталіся да пераключэння на зялёны ці чырвоны колер.

**Канстанцін УВАРАЎ**

# Гомельскія прадпрымальнікі збіраюць подпісы

Свабодны прафсаюз прадпрымальнікаў Цэнтральнага рынку Гомеля патрабуе пераўтварыць гэтае унітарнае прадпрыемства ў адкрытае акцыянернае таварыства. У канцы мінулага тыдня прадпрымальнікі распачалі збор подпісаў пад сваім зваротам да ўладаў гораду і вобласці.

Як патлумачыла БелаПАНу старшыня прафсаюзу Таццяна Марчанка, гэтае патрабаванне прадпрымальнікаў абумоўлена тым, што фактычна на Цэнтральным рынку ёсць асноўныя фонды, якія знаходзяцца ва ўласнасці індывідуальных прадпрымальнікаў. Гэта так званыя ралеты, грошы на будаўніцтва якіх адміністрацыя рынку і яго ўласнік — абласны саюз спажывецкіх таварыстваў — вымушалі прадпрымальнікаў здаваць пад выглядам бязвыплатнай фінансавай дапамогі. Сума вагалася ад 1,5 да 2,8 тысячы даляраў ЗША. Аднак у снежні, праз тры месяцы пасля таго, як былі пабудаваныя ралеты, адміністрацыя рынку выставіла прадпрымальнікам арэндную плату за гэты перыяд з разліку 21 даляр за 1 квадратны метр.

Свабодны прафсаюз прадпрымальнікаў прапаноўвае адміністрацыі рынку прызнаць права ўласнасці на пабудаваныя ралеты за гандлярамі, а ўнесеныя імі сродкі лічыць інвестыцыямі. Прафсаюз таксама мае намер правесці незалежную экспертызу кошту ралетаў, для чаго патрабуе ў 10-дзённы тэрмін прадставіць усю праектна-каштарысную дакументацыю. У выпадку, калі фактычныя затраты акажуцца меншыя за ўнесеныя грошы, прадпрымальнікі збіраюцца запатрабаваць вярнуць ім пераплачаныя сумы з улікам працэнтнай стаўкі Нацбанку.

Таццяна Марчанка лічыць, што гэты ліст — толькі спосаб выклікаць уласніка рынку на дыялог. Калі ж перамовы не адбудуцца, прадпрымальнікі пакідаюць за сабой права спыніць фінансаванне далейшага будаўніцтва ралетаў, што можа прывесці да зрыву праграмы рэканструкцыі рынку, а таксама звярнуцца ў суд па прызнанне права ўласнасці на пабудаваныя ралеты.

**Ірына ШАНЦАВА**

НАШЫ МЯСТЭЧКІ. БЛОНЬ



Фота Ул.ШЛАПАКА

# Еўропа дапамагае Клімавіцкаму раёну

Дабрачынныя арганізацыі трох гарадоў Германіі — Дортмунду, Лангенбергу і Хагену — даслалі дапамогу жыхарам Клімавіцкага раёну Магілёўскай вобласці, тэрыторыя якога часткова забруджана радыяцыяй у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Першая партыя грузу, што прыбыла ў Клімавічы, склала 30 тон.

Па звестках БелаПАНу, на працягу наступных пяці месяцаў Клімавіцкаму раёну плануюць дапамагчы таксама арганізацыі Бельгіі, Нарвегіі і Іспаніі.

**Канстанцін УВАРАЎ**

# Праз 10 гадоў прызыўнікаў будзе ўдвая менш

«Да 2005 году ніякіх праблем з камплектаваннем арміі ў нас не будзе», — такое меркаванне выказаў БелаПАНу намеснік начальніка галоўнага арганізацыйна-мабілізацыйнага ўпраўлення Генеральнага штабу Узброеных сіл Беларусі палкоўнік Леанід Мартынаў. У далейшым спецыялісты міністэрства абароны прагназуюць рэзкае зніжэнне колькасці прызыўнога кантынгенту. «Пасля 2005 году мы апынемся ў так званай «дэмаграфічнай яме», — лічыць Мартынаў. Паводле яго ацэнкі, колькасць прызыўнікоў у 2010 годзе, у параўнанні з 2002-м, зменшыцца працэнтаў на 40-50.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

# Ахвяры з вялікай дарогі

Гвалтоўная смерць напаткала ў Брэсце начальніка тамтэйшага філіялу Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Інтэраўтатранс» Міхаіла Зубава. Яго даставілі ў рэанімацыйнае аддзяленне абласной бальніцы з вуліцы Арлоўскай, непадалёк ад свайго пад'езду. Паводле міліцэйскага пратаколу, невядомыя падпільнавалі М.Зубава ў вячэрні час і, напаўшы, праламалі яму чэрап. Трагедыя разыгралася ў мінулы чацвер, 24 студзеня. А днём напярэдадні ў Брэсце прайшлі сенсацыйныя арышты «падпольнай мытні». Супрацоўнікі ўпраўлення Камітэту па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй выкрылі арсенал падручных сродкаў, якія дазвалялі, абмінаючы мытны тэрмінал, афармляць грузы ў любую краіну свету. Гэта 59 нумарных асабістых пячатак мытнікаў, 14 штампаў мытні «Заходні Буг», 4 памежныя і 2 мытныя штампы Літоўскай рэспублікі і штамп службы каранціннага кантролю. Акрамя таго – капіравальная тэхніка, звыш 200 чыстых бланкаў з пячаткамі і атрыбутамі разнастайных замежных камерцыйных фірмаў, больш за 8 тысяч амерыканскіх даляраў. У кватэры з гэтай маёмасцю затрыманыя нідзе не працуючая 23-гадовая берасцейка і мужчына-праграміст 1973 году нараджэння, жыхар Брэсцкага раёну.

Аператыўнікі пакуль адмаўляюцца ад якіх-небудзь каментарыяў па гэтых дзвюх крымінальных справах, а тым больш не жадаюць прызнаваць магчымае сувязі між імі.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

# Галаўны боль чужой інтэграцыі

*Еўропа пашыраецца. Дванаццаць краін селі за парты і рыхтуюцца да ўступных іспытаў. Праграма вялікая. Тут і практычныя заняткі па стварэнні бездэфіцытнага бюджэту, і дзелавыя гульні па развязванні сацыяльных канфліктаў. Прыватызацыя, правы чалавека, судовая рэформа. Усяго не пералічыш, а тэрміны падціскаюць.*

У ліку 12 шчасліўчыкаў і нашы былыя Латвія, Эстонія, Літва. Крыўдна! А часам проста «пакутна балюча». Урэшце, у іх свая пясочніца, у нас свая. Шкада, што пясочак наш драбнаваты, экалагічна не заўсёды чысты, аднак свой, і ўсім пакуль хапае. З другога боку, граніца ж не на замку. Прыкупіў якога тавару — і ў Польшчу. Гэта бацьку туды не пускаюць, але на дзетак, дзякуй Богу, забарона не распаўсюджваецца. Круціся, глядзіш, і канцы з канцамі звядзеш. Што, уласна, тысячы людзей штодня і робяць.

Але Еўропа пашыраецца. Атрымліваецца нешта накшталт аднае вялікае пясочніцы. І тут могуць узнікнуць праблемы. Не, не ў самой еўрапейскай пясочніцы – на мяжы. Шэнгенскае пагадненне чыталі? Я не чытаў, але сэрца чуе – без візы тут не абыдзецца. У 2000 годзе Польшча ўвяла візавы рэжым для жыхароў Украіны. Колькасць перасячэнняў мяжы, як кажуць памежнікі, скарацілася на 40%, у абсалютных лічбах – акурат 6 млн. будзе. Нас у Беларусі меней, але і лік таксама не на тысячы пойдзе. Во так чужыя ўнутраныя справы многіх па кішэні і ўдараць. Зямля наша не аднымі «чаўнакамі» багатая. Сям-там яшчэ і бізнесмены трапляюцца. Ім як будзе? Тут з якога боку паглядзець.

Адзіная Еўропа – адзіны рынак, а на тым рынку 300 млн. прадаўцоў-пакупнікоў. Усе па адных правілах працуюць, аднымі стандартамі карыстаюцца, дый валюта амаль ува ўсіх адна. Украіна толькі ад гэтага чакае, што Еўропа стане для яе гандлёвым партнёрам № 1. Потым ужо ўсе мы, хто ў СНД дружыць. Але само сабой нічога не станецца. Калі ў пару свае законы і стандарты, а галоўнае – эфектыўнасць эканомікі не падцягнуць, то падцягваць давядзецца штаны (у каго яны яшчэ застануцца).

Украіна ўсё гэта добра бачыць і штосілы рыхтуецца. Што выйдзе – другое пытанне. Расія, асабліва пасля 11 верасня, як быццам таксама вызначылася. Гульні ў геапалітыку з былымі калегамі па няшчасці, можа, і прыносяць палітычны капітал, але чарговую трубу цягнуць-такі будуць на Захад. Дый грошы з Расіі куды плывуць? Сумы немалыя. Па звестках Сусветнага Банку, кожны год больш за 10 млрд. даляраў сплывае і асядае ў еўрапейскіх банках. На прафесійнай мове гэта называецца «інвестыцыі ў банкаўскія активы». Такім чынам, Расія – буйны інвестар у еўрапейскую эканоміку. Як тут не зблізацца!

Ну, а Беларусь чацвёрты год з Расіяй саюзную дзяржаву будуе. Парламентарыі нашы ўсё пра уніфікацыю заканадаўства гавораць, у сэнсе падгонкі нашых законаў пад расійскія ўзоры. Расія ж тым часам сама пад Еўропу падладжваецца. Глядзіш, і мы неяк на захад з усходу зойдзем. «Такая вось загагуліна атрымліваецца». Не памятаю, хто сказаў.

Карацей: не спі – замерзнеш! Польшча ўжо сёлета збіраецца скасаваць больш за 100 пагадненняў з Украінай, Беларуссю і Расіяй з-за іх неадпаведнасці стандартам ЕС.

У суседзяў вяселле, у нас тынк асыпаецца. Запрасілі б да сябе павесяліцца – за тынк не так крыўдна было б. Але самі вінаватыя.

**Сяргей НІКАЛЮК**

# «Дарыда» бярэ ваду на тэрыторыі могільніка

Жыхары Ждановічаў знайшлі парэшткі жывёлаў ля свідравіны, дзе фірма «Дарыда» бярэ ваду для вытворчасці безалкагольных напояў. Парэшткі жывёлаў належаць лабараторыі Інстытуту мікрабіялогіі. У лабараторыі жывёлаў заражалі ўзбуджальнікамі сібірскай язвы, шаленства і воспы.

Адна з лабараторыяў Інстытуту мікрабіялогіі месціцца насупраць чыгуначнага вакзалу ў Ждановічах. У віварый уваходзяць два хлявы, дзе ўтрымліваюць жывёлаў для доследаў. Паколькі лабараторыя не мае крэматорыю, жывёлаў пасля смерці папросту закопвалі ў зямлю.

Мясцовыя жыхары распавялі Радыё Свабода пра тое, што час ад часу парэшткі трусоў, пацукоў і сабак трапляюць ім пад ногі. На тэрыторыі гэтага могільніка знаходзіцца водная свідравіна, якая належыць фірме «Дарыда». Яе безалкагольныя напоі вельмі папулярныя ў беларусаў. Мясцовы жыхар Міхась Малодзька распавёў: «Выкапалі яму і закапалі гэтага труса. Старажылы кажуць, што і раней бачылі парэшткі жывёлаў на гэтай тэрыторыі. Няма там ніякай аховы і агароджы. Іван Ціцянкоў калісь зрабіў там свідравіну. Тады, паколькі ён быў такі знакаміты гаспадар, ён ні ў кога не пытаўся дазволу. Я тэлефанаваў у раённую і ў абласную санстанцыю. У абласной паведамілі, што не далі дазволу, спасланіся на тое, што раённая дазволіла. Трэба зачыняць гэтыя свідравіны. Ціцянкоў адчыняў свідравіну, а цяпер там Дзялендзік. Ён цяпер дэпутат».




Дажынкі ў Ждановічах, дзе бярэ ваду фірма «Дарыда»

Мы звярнуліся па тлумачэнні ў санстанцыю Мінскага раёну да галоўнага дзяржаўнага санітарнага доктара Алега Богуша. Ён паведаміў, што сапраўды дазволіў зрабіць свідравіну побач з лабараторыяй: «Там і праўда праводзяць доследы на жывёлах, але ўсіх жывёлаў звозяць на гарадскі жывёльны могільнік. Мы рэгулярна даследуем ваду. Вада нармальная. Яе і дыетолаг правярае. Нічога страшнага. Цяпер жа асабліва не закапаеш жывёліну — зіма. Можа там і сканаў які трус, дык гэта драбяза».

Але жыхары Ждановічаў не падзяляюць спакою галоўнага санітарнага доктара. Яны будуць звяртацца да недзяржаўных экспертаў.

**Любоў ЛУНЁВА**
**Радыё «Свабода»**

# Алібі паставілі пад сумнеў

*28 студзеня на закрытым працэсе па справе групы былога афіцэра спецпадраздзялення МУС «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча дапыталі важных сведкаў. Паводле звестак БелаПАНу, суд працягнуў даследаванне эпізодаў выкрадання аператара расійскага тэлеканалу ОРТ Дзмітрыя Завадскага, якое адбылося 7 ліпеня 2000 году. У гэтым злачынстве абвінавачваюцца Ігнатовіч і яшчэ адзін удзельнік групы — баец «Алмаза» Максім Малік.*

У прыватнасці, дапыталі аднаго з блізкіх сваякоў Маліка. Ён быў дастаўлены ў суд нечакана — «прыводам», проста з Баранавічаў (Брэсцкая вобласць), дзе ён жыве. Верагодна, разлік быў на тое, што сваяк не зможа скардынаваць свае паказанні з паказаннямі іншых дапытаных на працэсе. Паводле словаў сведкі, вечарам 6 ліпеня 2000 году ён размаўляў з Максімам Малікам праз тэлефон, і той сказаў яму, што спяшаецца, бо тэрмінова выязджае ў Мінск, каб ужо 7 ліпеня выехаць за межы Беларусі. Такім чынам, пад сумненне пастаўлена алібі Маліка, бо раней іншыя яго сваякі сцвярджалі, што ён правёў ноч з 6 на 7 ліпеня дома, у Барысаве. Аператар ОРТ Дзмітрый Завадскі знік раніцай 7 ліпеня па дарозе ў аэрапорт «Мінск-2», дзе ён павінен быў сустрэць журналіста Паўла Шарамета, які прылятаў з Масквы.

Апрача таго, паводле словаў сваяка, Максім Малік летам 2000 году казаў яму, што рыхтуецца перайсці з «Алмаза» ў Службу бяспекі прэзідэнта.

Раней на судзе былі абвешчаны пісьмовыя паказанні колішняга сябра Ігнатовіча — былога супрацоўніка атрада міліцыі асаблівага прызначэння (АМАП) Антона Кабзара. У іх падрабязна расказваецца пра злачынствы, нібыта ўчыненыя Ігнатовічам, а таксама пра яго планы. У прыватнасці, пра сумесную паездку з Ігнатовічам і нейкім Аляксандрам Лявоненкам, у той час супрацоўнікам Службы бяспекі прэзідэнта, у расійскі горад Бранск. (Пазней Лявоненка быў звольнены з СБП, і цяперашнім часам ён служыць у «Алмазе».) У Бранску яны вымагалі буйную суму ў даларах у расійскага бізнесмена.

Паводле інфармацыі Кабзара, адразу пасля прыезду на месца злачынства Ігнатовіч фатаграфаваў навакольную мясцовасць, каб зафіксаваць магчымых сведкаў. У паказаннях гаворыцца аб падрыхтоўцы і ажыццяўленні хуліганскага нападу на вядомага беларускага паэта Славаміра Адамовіча, якое нібыта ініцыяваў Ігнатовіч. Аб справе Завадскага Кабзар нічога не ведаў, бо да ліпеня 2000 году пасварыўся з Ігнатовічам.

Сам Антон Кабзар пасля дачы паказанняў быў вызвалены з-пад варты. Аднак хутка ён падаў пісьмовую заяву ў пракуратуру аб пагрозах з боку некаторых падазроных, у прыватнасці, Лявоненкі, якога таксама выпусцілі на волю. Кабзар прасіў прыняць меры для забеспячэння сваёй бяспекі. Тым не меней праз некаторы час на яго быў учынены напад. Яго збілі, разбіўшы галаву. У красавіку 2001 году Кабзар нечакана памёр ад вострай інфекцыі. Сваякі, якія выступалі ў судзе, заявілі, што ўпэўнены ў яго забойстве. Яны таксама казалі аб пагрозах, якія зазнаюць увесь час, спрабуючы дамагчыся праўды аб яго смерці.

**Генадзь БАРБАРЫЧ,**
**БелаПАН**

# Крыўдзіцеля абавязалі паправіцца

28 студзеня Гомельскі аблвыканкам не падтрымаў прадстаўлення Камітэту дзяржкантролю вобласці і пакінуў на пасадзе старшыню Жыткавіцкага райвыканкаму Пятра Савіцкага, у дзейнасці якога кантралёры выявілі процізаконныя факты.

Размова ідзе аб пераследаванні Пятром Савіцкім мясцовага фермера Міхаіла Шрубы. Старшыня райвыканкаму адмяніў асабістае рашэнне аб выдзяленні фермеру зямлі ў доўгатэрміновую арэнду, але дагавору арэнды не скасаваў. У лістападзе 2001 году калегія Камітэту дзяржкантролю па Гомельскай вобласці рэкамендавала раённаму Савету дэпутатаў аднавіць правы фермера Шрубы на карыстанне арэндаванай зямлёй, а аблвыканкаму — разгледзець пытанне аб адпаведнасці старшыні Савіцкага займанай пасадзе.

13 снежня 2001 году дэпутаты Жыткавіцкага райсавету адхілілі прадстаўленне абласнога камітэту дзяржкантролю. Аблвыканкам разглядаў гэты дакумент 28 студзеня і прыйшоў да высновы, што Пётр Савіцкі павінен сам урэгуляваць праблему. На думку старшыні Гомельскага аблвыканкаму Аляксандра Якабсона, мясцовая ўлада павінна вярнуць фермеру зямлю ў тым памеры, які вызначаны дагаворамі арэнды. Паколькі па законе гэтае пытанне знаходзіцца ў кампетэнцыі мясцовых Саветаў, то Пётр Савіцкі павінен пераканаць дэпутатаў, каб яны сваім рашэннем вярнулі сітуацыю ў межы закону.

**Ірына ШАНЦАВА,**
**БелаПАН**

# Новыя пакуты для прэсы

## *Прыняцце новага закону аб СМІ пагражае ўсеагульнай перарэгістрацыяй мас-медыяў*

*Прыняцце новага закону аб сродках масавай інфармацыі, які мяркуецца разгледзець у першым чытанні на вясновай сесіі Палаты прадстаўнікоў, пагражае правядзеннем усеагульнай перарэгістрацыі СМІ Беларусі. Прынамсі, Савету міністраў прадпісана цягам месяца пасля прыняцця закону правесці падрыхтоўчыя мерапрыемствы да такой перарэгістрацыі.*

На фоне паказной лібералізацыі заканадаўства аб друку адбудзецца яшчэ большае «ўзмацненне кантролю за дзейнасцю прэсы», упэўнены кіраўнік Цэнтру прававой абароны журналістаў пры БАЖ Міхаіл Пастухоў.

З новага праекту выключанае палажэнне пра неабходнасць узгаднення з органамі мясцовай улады месца размяшчэння рэдакцыяў СМІ – і гэта лічыцца за вялікае дасягненне. Аднак з самага пачатку замест таго ўзгаднення ўзнікае праблема: трэба найперш стварыць юрыдычную асобу, што «само па сабе прадугледжвае неабходнасць таго ж узгаднення юрыдычнага адрасу». Гэта значыць, трэба атрымаць ад «вертыкалі» гарантыйны ліст на размяшчэнне рэдакцыі. ІП сёння яшчэ маюць магчымасць займацца газетным бізнесам. Аднак наўрад ці захаваецца магчымасць размяшчэння рэдакцыяў па хатнім адрасе, як гэта адбываецца цяпер, пасля прыняцця закону.

Знешняя лібералізацыя прысутнічае ў артыкуле «Недапушчэнне злоўжывання свабодай масавай інфармацыі»: замест 9 дзеючых пунктаў захаваліся толькі 5 палажэнняў, паводле якіх вызначаецца вядомае «злоўжыванне». «Аднак яны носяць больш агульны характар і ў цяперашнім выглядзе, па сутнасці, цалкам перакрываюць 9 дзеючых», — кажа М.Пастухоў. Да прыкладу, норма, якая выклікала нашыя вялікія нараканні, — «злоўжываннем» па-ранейшаму застаецца «распаўсюджванне інфармацыі ад імя незарэгістраваных, ці тых, што не прайшлі перарэгістрацыі, ці ліквідаваных палітычных партыяў ці грамадскіх аб'яднанняў», — заявіў Міхаіл Пастухоў.

«У артыкуле 8 адкрыта забараняецца фінансаванне сродкаў масавай інфармацыі з боку замежных юрыдычных і фізічных асобаў, акрамя спонсарства і іншага, прадугледжанага законам. Па сутнасці, гэта паўтарэнне сумнавядомага прэзідэнцкага дэкрэту № 8, які абмяжоўвае выкарыстанне замежнай гуманітарнай дапамогі. Цяпер СМІ могуць атрымоўваць фінансавую падтрымку выключна ад дзяржавы, на што незалежная прэса разлічваць не можа, ці ад спонсараў. Такім чынам абмяжоўваюцца фінансавыя магчымасці СМІ, перш за ўсё незалежных», — кажа Міхаіл Пастухоў. А між тым спонсарства, па вызначэнні законапраекту, гэта – «аказанне юрыдычнай асобай ці індывідуальным прадпрымальнікам фінансавай ці іншай матэрыяльнай дапамогі СМІ з мэтай папулярызацыі іх імя, фірменнай назвы ці таварнага знаку (знаку абслугоўвання), а таксама павышэння дзелавой рэпутацыі».

Апроч таго, у праекце з'явіўся артыкул пра «гарантыі ад манапалізацыі СМІ». Гучыць прыемна, але насамрэч «ніякіх гарантыяў ад манапалізацыі няма». «Манапалізацыя была і застаецца ў адносінах да электронных СМІ. Каб прызнаць манапольнае права ў той ці іншай сферы, трэба каб гэта былі як мінімум 2 тэлеканалы і тры радыёстанцыі. У праекце гаворыцца: «Дзяржаўны орган, юрыдычная ці фізічная асоба не можа быць заснавальнікам тэлевізійных і радыёвяшчальных СМІ, якія вядуць вяшчанне больш чым на двух каналах тэлевізійнага вяшчання і трох каналах радыёвяшчання на тэрыторыі ўсёй краіны» – гэта значыць нават стварэнне другога тэлеканалу ў Беларусі, якое плануецца, не будзе супярэчыць новаму закону аб СМІ. Абсурд», — упэўнены Міхаіл Пастухоў.

БАЖ распрацаваў шэраг альтэрнатыўных законапраектаў: «Аб друкаваных СМІ», «Аб тэлевізійным і радыёвяшчанні», на падыходзе – Канцэпцыя стварэння Грамадскага тэлебачання. Міхаіл Пастухоў вызначыў сутнасць грамадскага тэлебачання наступным чынам: «Грамадскае тэлебачанне мусіць быць цалкам аддзеленае ад дзяржавы і яе ўплыву; яно не можа нават утрымлівацца за кошт краіны. Тэлебачанне мусіць утрымлівацца за кошт абаненцкай платы гледачоў, яно не павінна быць засмечанае дзяржаўнай ідэалогіяй, рэкламай, і думка гледача мусіць быць вызначальнай для тэлебачання».

«Гэты законапраект – спроба прыдаць лоск дзеючаму недэмакратычнаму заканадаўству ў галіне СМІ. Замест лібералізацыі ў выніку мы атрымаем больш рэакцыйны закон аб СМІ.

**Рыгор БУЯН**

# «Сілавікі» сабраліся ў Мінску

29 студзеня ў Мінску прайшло сумеснае пасяджэнне Каардынацыйнага савета генеральных пракурораў, Савета міністраў унутраных спраў, Савета кіраўнікоў органаў бяспекі і спецслужбаў, Савета камандуючых пагранічнымі войскамі і Савета кіраўнікоў мытных службаў краін СНД. На адкрыцці пасяджэння прысутнічаў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

«Развіццё супрацоўніцтва ў рамках СНД ідзе ў рэчышчы агульнасусветных тэндэнцый», – адзначыў, адкрываючы пасяджэнне, старшыня Выканаўчага камітэта СНД Юрый Яраў. У парадку дня стаялі тры асноўныя пытанні: развіццё ўзаемадзеяння міждзяржаўных органаў у рэалізацыі міждзяржаўнай праграмы сумесных мер барацьбы са злачыннасцю; аб пагрозе наркаагрэсіі ў адносінах да дзяржаў СНД і мерах процідзеяння ёй; аб праекце новай рэдакцыі Канвенцыі аб прававой дапамозе і прававых адносінах па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

# Ці стане Якабсон нобелеўскім лаўрэатам?

*Што далей сельская гаспадарка без рэфармавання існаваць ужо не можа, улады, вядома, разумеюць. На Гомельшчыне калгасы і саўгасы (іх цяпер афіцыйна называюць камунальнымі ўнітарнымі сельгаспрадпрыемствамі) маюць цяпер 185 мільярдаў рублёў крэдытных даўгоў, альбо 465 мільёнаў рублёў на кожную гаспадарку. Гэтыя сумы – цяжар, які нерэфармаваныя калгасы ўжо няздольныя несці.*

Пытанне, аднак, не ў тым, што ўлады не жадаюць нешта змяніць у гэтым зачараваным коле. Няма адказу, як зрабіць гэта найлепшым чынам.

Надзвычай характэрнае ў гэтым сэнсе прызнанне старшыні Гомельскага аблвыканкаму Аляксандра Якабсона. Падчас справаздачы на нядаўнім паседжанні прэзідыуму Саўміну, што праводзіўся ў Гомелі наконт выканання ў рэгіёне ўрадавай праграмы перабудовы аграпрамкомплесу, Якабсон прызнаўся: калі б ён дасканала ведаў, як праводзіць рэформы, то за гэта яму б належала даць Нобелеўскую прэмію.

***

Другі паказальны факт. Памочнік прэзідэнта, галоўны інспектар па Гомельскай вобласці Зянон Ломаць, прызначаны на гэтую пасаду незадоўга да Новага году, на сесіі абласвету 4 студзеня публічна паставіў задачу гомельскім аграрнікам: перагнаць Віцебскую вобласць і замацавацца на 5-м месцы. Пагоня датычыць вытворчасці малака ў калгасах і саўгасах рэгіёну. Для рыўка, паводле словаў Зянона Ломаця, «не хапае сістэмы падвядзення вынікаў спаборніцтва». Іншымі словамі, падвышаць эфектыўнасць сельскай гаспадаркі інспектар збіраецца за кошт арганізацыі спаборніцтва ў вёсцы паміж даяркамі і даглядчыкамі жывёлы.

Вельмі насцярожна ставяцца ўлады да нараджэння ўласніка на зямлі. Прыклад фермера Міхаіла Шруба з Тураўшчыны, бадай, самы паказальны. Жыткавіцкі райвыканкам спачатку даваў яму зямлю, а пасля адабраў.

Зрэшты, на згаданым вышэй паседжанні прэзідыуму Саўміну прэм'ер Генадзь Навіцкі, хоць і заклікаў «вертыкальшчыкаў» глядзець на «інтарэсы вёскі праз уласніка», але тут жа стрымліваў іх, а заадно, мабыць, і сябе. Маўляў, сельгаспрадпрыемства «Зара» Мазырскага раёну працуе дбайна, не мяняючы ўласніка, не шукаючы яго на зямлі.

У сваю чаргу кіраўнік сельгаспрадпрыемства «Зара» Уладзімір Дворкін, калі ўрадоўцы сталі дапытвацца ў яго пра сакрэты росту вытворчасці, прызнаўся, што дзейнічаў «наперакор пастановам ураду». «Зверху» забаранялі, а ён стварыў цэх перапрацоўкі мяса, а затым і малака. Прыкінуў, што вытворца ад продажу сваёй прадукцыі мае толькі 30 працэнтаў грошай, астатнія 70 забіраюць перапрацоўшчыкі і гандляры. Таму стаў кіравацца правілам: сам атрымаў, сам перапрацаваў і сам прадаў. Праўда, усё гэта каштавала Дворкіну, як ён выказаўся, сівых валасоў.

Маючы гэткі маяк у абліччы сельгаспрадпрыемства «Зара», прэм'ер, ягоныя намеснікі Аляксандр Папкоў, Андрэй Кабякоў і кіраўнік камітэту дзяржкантролю Анатоль Тозік дапытваліся ў старшыні аблвыканкаму Якабсона: чаму, нягледзячы на ўсе ўказы і пастановы, у вобласці рэальна рэарганізацыя сельгасвытворчасці не рухаецца?

— Урад карачыцца, — абураўся галоўны кантралёр Тозік, — сяк-так яшчэ варушацца ў аблвыканкаме і райвыканкамах, а ў калгасах – ціха. Усе чакаюць нейкай чарговай адмашкі.

Аляксандр Якабсон зноў-такі шчыра прызнаўся, што кіраўнікі баяцца праяўляць ініцыятыву. Трымаюцца прынцыпу: сёння зраблю, а заўтра — загадаюць назад перарабляць. Гэта ў лепшым выпадку. У горшым — наогул пакараюць.

•••

Улады прапануюць 10 мадэляў рэфармавання існуючых калгасаў і саўгасаў. Мадэлі гэтыя – усяго толькі варыяцыі на зададзеную тэму. Яны не родзяць уласніка, гаспадара на *сваёй* зямлі. І вось што дзіўна. Мець высокатаварную вытворчасць рэфарматары мяркуюць пры захаванні адміністрацыйна-каманднай сістэмы ў АПК, якая сябе цалкам вычарпала.

На Гомельшчыне зараз 52 гаспадаркі належаць да рэспубліканскай уласнасці. Яшчэ 116, як лічыць аблвыканкам, чапаць не трэба, бо яны і надалей могуць існаваць у нязменным выглядзе. 195 гаспадарак не выконваюць сваёй ролі як таварныя сельгаспрадпрыемствы. Астатнія 65 – у крытычным стане. Як калгас «Звязда» Жлобінскага раёну, дзе летась сабралі 5 цэнтнераў збожжа на гектар.

«Ляжачыя» гаспадаркі ўлады гатовы аддаць іх старшыням і дырэктарам у арэнду, але ахвочых, наколькі вядома, пакуль не знаходзіцца. Таму дабітыя гаспадаркі, нібы пагарэльцаў, распіхваюць зараз пад дахі раённых прадпрыемстваў сельгасхіміі альбо суседзяў. Мусіць, невыпадкова Якабсон прасіў ва ўрада 5 мільярдаў рублёў таварнага крэдыту пад збожжа і яшчэ дадатковых сродкаў на набыццё 12 тысяч пародзістых цялушак.

Патрэбны інвестыцыі на рэканструкцыю ў вобласці меліярацыйных земляў, з якіх 23 тысячы гектараў вымакае.

Жадаюць аграрнікі і адтэрміноўкі даўгоў. Не на год, вядома: на гадоў пяць, дзесяць, а лепей – на паўстагоддзя. Так што рэформа зноўку пачынаецца з працягнутай рукі і адміністрацыйнай адмашкі.

Дарэчы парада ці не, але землякам у сваіх памкненнях нешта перайначыць, відаць, трэба было б звярнуць увагу і на досвед суседзяў-украінцаў.

***

Там зямлю найперш атрымалі фермеры – 17 працэнтаў ад агульнай колькасці. Невялікая частка зямлі адышла сельскім радам. Уся астатняя зямля, якая належала калгасам, падзелена на долі-паі паміж вяскоўцамі.

Надзелы атрымалі і працаздольныя, і пенсіянеры – усе члены калгасу. Нават калі хтосьці быў на тэрміновай вайсковай службе ці непасрэдна з калгасу абіраўся ў органы дзяржаўнага кіравання – і такім прызначылі надзелы. У сярэднім — 3-6 гектараў.

Сваю дзялянку можна выдзеліць з агульнага масіву і прадаць, перадаць у спадчыну, абмяняць, аддаць у арэнду. Дарэчы, паводле ўказу прэзідэнта Украіны, нават калі зямля здадзена ў арэнду кааператыўнай гаспадарцы, уласніку забяспечваецца атрыманне арэнднай платы памерам не менш як 1 працэнт ад кошту, пазначанага ў сертыфікаце. Для даведкі: кошт гектара ворыва даходзіць у суседзяў да 8 тысяч грыўняў (прыкладна 2 тысячы даляраў).

Свой участак, аднак, не абавязкова здаваць у арэнду, асабліва калі чалавек мае сілы і ахвоту працаваць на зямлі. Можна нават прыдбаць дадатковыя гектары за кошт арэнды зямлі, якая належыць, напрыклад, сельскай радзе.

У 2000 годзе ўласнікі вырасцілі 76 працэнтаў бульбы, 84 – гародніны, 68 – мяса, 61 працэнт — малака. І гэта толькі на 15 працэнтах сельгасугоддзяў!

Узгадваюць суседзі і аграрнага прадпрымальніка з Галічыны Івана Білака, дарэчы, былога галоўнага ветэрынарнага доктара ў калгасе. Ён стаў першым у дзяржаве прыватнікам з мільённымі сумамі гадавога абароту. Білакова «імперыя» мае нават уласны мясакамбінат, пабудаваны на аснове колішняга дзяржаўнага перапрацоўчага прадпрыемства.

Рэфармаванне аграрнага сектару ва Украіне вядзецца крок за крокам, паслядоўна і мэтанакіравана.

На падставе аналізу папярэдніх захадаў урад вызначыў асноўныя накірункі далейшага пераўтварэння сельскай гаспадаркі. Суседзі наважаны завяршыць зямельную рэформу і стварыць паўнавартасны рынак зямлі, паскорыць фармаванне інфраструктуры аграрнага рынку, спрыяць павышэнню таварнасці асабістых падсобных гаспадарак вяскоўцаў. У якасці прыярытэтаў пазначана і стварэнне ўмоваў для развіцця сацыяльнай сферы ў вёсцы.

Законы і іншыя нарматыўныя акты прадугледжваюць механізм банкаўскага абслугоўвання фермерскіх гаспадарак, іх крэдытавання пад заклад зямлі. Гэтай справе будзе служыць сетка іпатэчных (зямельных) банкаў.

Немалаважна ў аграрнай рэформе і тое, што яна не паўплывае адмоўна на выплату пенсій. Яны, дарэчы, выплачваюцца вяскоўцам з Пенсійнага фонду. Да таго ж пенсіянер мае магчымасць здаць свой зямельны надзел у арэнду, што прыносіць дадатковыя грошы. Пакуль, праўда, невялікія, але ўсё ж прыбытак.

Рэформа на зямлі выглядала б аднабаковай і няпоўнай без прыватызацыі перапрацоўчых прадпрыемстваў. Супрацоўнікі міністэрства аграрнай палітыкі Украіны прыводзяць проста-такі ашаламляльную лічбу: 99 працэнтаў прадпрыемстваў харчовай і перапрацоўчай прамысловасці ва Украіне прыватызаваны. Гэта каля 2 тысяч буйных і 6 тысяч дробных прадпрыемстваў.

Прыватызацыя паспрыяла таму, што перапрацоўчая галіна ўстала на ногі. У тым жа 2000 годзе аб'ёмы выпуску харчовых тавараў падвысіліся больш як на чвэрць – на 26 працэнтаў. Цяпер на ўнутраным рынку Украіны 93 працэнты харчовых прадуктаў – айчынныя.

***

Павучыцца такому вопыту нікому не лішне, асабліва, калі арганізатары замахваюцца на прэстыжную прэмію. Было б надта добра, калі б у нас хоць каму на вёсцы «ўдалося яе заслужыць.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ, Гомель**



Фота Ул. ШЛАПАКА

# Апошнія дні кіёскаў



Фота Ул. ШЛАПАКА

На працягу паўтара года ў Мінску адбудзецца паэтапны пераход ад ларкоў і кіёскаў да больш прагрэсіўных форм гандлю.

Згодна з рашэннем Мінскага гарвыканкаму «Аб упарадкаванні размяшчэння і функцыянавання аб'ектаў дробнарознічнага гандлю на тэрыторыі гораду Мінску», да 1 траўня бягучага году кіёскі, што знаходзяцца ў цэнтры гораду, будуць перанесены ў сярэдзіну кварталаў і згрупаваныя ў гандлёвыя рады. Да 1 чэрвеня павінны быць перанесены з цэнтральных на другарадныя вуліцы і так званыя комплексы прыпынкаў з кіёскамі. Канчатковы ж перанос усіх ларкоў у гандлёвыя цэнтры, супер- і гіпермаркеты прадугледжаны да 1 ліпеня 2003 году.

Як адзначаецца ў «Канцэпцыі ўпарадкавання і арганізацыі сучасных форм дробнарознічнага гандлю ў горадзе Мінску», практыка арганізацыі дробнарознічнага гандлю, што існуе цяпер, не забяспечвае належнага абслугоўвання насельніцтва, а таксама «не адпавядае тэхнічнай і эстэтычнай якасці фарміравання сталічнага гарадскога асяроддзя». У прыватнасці, адсутнічаюць належныя санітарна-тэхнічныя ўмовы, парушаюцца тэрміны рэалізацыі і захавання тавараў і гэтак далей.

Прыкладамі ўдасканалення форм гандлю, па меркаванні Мінгарвыканкаму, служаць «Паркінг», рынкі «Маскоўскі» і «Малінаўка».

**БелаПАН**

# Праект дэкрэту аб ліцэнзаванні падрыхтаваны

Дэпартаментам па прадпрымальніцтве міністэрства эканомікі падрыхтаваны праект дэкрэту прэзідэнта «Аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь».

Па звестках міністэрства эканомікі, дакумент накіраваны на ўдасканаленне дзяржаўнага рэгулявання гаспадарчай дзейнасці юрыдычных асобаў і індывідуальных прадпрымальнікаў.

У прадугледжаным праектам пераліку захаваны 42 ліцэнзаваныя віды дзейнасці з больш чым 160 існуючых цяпер.

Да ліцэнзаваных відаў дзейнасці праект дэкрэту адносіць асобныя віды дзейнасці, ажыццяўленне якіх можа пацягнуць нанясенне шкоды жыццю і здароўю грамадзян, абараназдольнасці і бяспецы дзяржавы, яе эканамічным інтарэсам, навакольнаму асяроддзю, калі дзяржаўнае рэгуляванне гэтых відаў дзейнасці не можа быць здзейснена іншымі метадамі, акрамя ліцэнзавання.

На кожны ліцэнзаваны від дзейнасці прадугледжваецца выдача адной ліцэнзіі. У выпадку, калі ліцэнзаваны від дзейнасці ўключае ў сябе асобныя віды аб'ектаў (прадукцыі, абсталявання, маёмасці і іншых), іх склад вызначаецца палажэннем аб ліцэнзаванні. Палажэнні аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці зацвярджаюцца Саветам міністраў.

Ліцэнзіі, выдадзеныя да ўступлення ў сілу гэтага дэкрэту, будуць сапраўдныя на працягу тэрміну, на які яны выдадзены, пры ўмове, што звесткі, якія там утрымліваюцца, не патрабуюць унясення змяненняў у адпаведнасці з дадзеным дэкрэтам. За ўнясенне змяненняў у ліцэнзію аплата не збіраецца.

Дзеянне гэтага дэкрэту не будзе распаўсюджвацца на адносіны, што ўзнікаюць у сувязі з ажыццяўленнем знешнегандлёвых аперацый згодна з нормамі міжнародных дагавораў, а таксама ў сувязі з выкарыстаннем вынікаў інтэлектуальнай дзейнасці і заключэннем дагавору комплекснай прадпрымальніцкай ліцэнзіі (франчайзінгу).

**БелаПАН**

ЭКСПРЭС

# Эканамічныя нататкі

### Прыватызацыя як яна ёсць

У гэтым годзе ў Беларусі плануецца прадаць па конкурсе акцыі 46-ці ТАА, што належаць дзяржаве. Па папярэдніх падліках мяркуецца, што ў бюджэт 2002 году павінна паступіць ад прыватызацыі прыкладна 100 мільярдаў беларускіх рублёў (амаль у дзесяць разоў больш, чым у мінулым годзе). Між тым, па выніках двух конкурсаў, што прайшлі ў канцы 2001 году, было прададзена толькі адно прадпрыемства з 63 прапанаваных. На астатнія аб'екты ахвочых не знайшлося.

### Японскія фірмы паступова банкруцяцца

Колькасць карпарацыйных банкруцтваў у Японіі за мінулы год дасягнула найвялікшай лічбы з 1984 году і склала на пачатак 2002 году 19 164 прадпрыемствы. Сума доўгу кампаній, што сталі банкрутамі, склала ўжо 1,52 трлн. даляраў. Як сцвярджаюць японскія эксперты, гэтыя лічбы могуць павялічыцца ў найбліжэйшыя месяцы, бо шматлікія кампаніі ўжо сутыкнуліся з банкруцтвамі сваіх пастаўшчыкоў і кампаній-спажыўцоў, што можа стаць прычынай ланцуговай рэакцыі ў працэсе банкруцтваў. Яшчэ адно пытанне, якое хвалюе японскіх эканамістаў, непасрэдна звязана з няспыннымі банкруцтвамі – гэта катастрафічнае павелічэнне колькасці беспрацоўных, якая яшчэ да канца мінулага году дасягнула 5,5% (самы вялікі паказчык за апошнія некалькі дзесяткаў гадоў).

### Бензіну ў нас — заліся

Эканамісты-эксперты звяртаюць увагу на тое, што на нафтаперапрацоўчых заводах Беларусі сабралася вялікая колькасць нафтапрадуктаў. І іх непакоіць цяжкасць вырашэння гэтай праблемы, бо экспарт такога дарагога паліва пакідае жадаць лепшага. Зменшыць запас можна толькі праз зніжэнне акцызаў на нафтапрадукты (разам з НДС іх узровень складае 38%), якія на пункт вышэйшыя за расійскія. Між тым, менавіта зараз пастаўшчыкі расійскай нафты маюць намер рэалізаваць усе атрыманыя нафтапрадукты на тэрыторыі нашай краіны. Аднак платаздольнасць беларускага рынку сёння нізкая. Па некаторых ацэнках, кошт на бензін і дызпаліва за апошні час зменшыўся на 15%.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# У Мінску не хапае дворнікаў

*Адлігу асабліва вітаюць дворнікі: меней даводзіцца махаць рыдлёўкамі, разграбаючы снежныя гурбы, ды прасцей гэта рабіць. Лёд дзяўбсці – увогуле занятак звышцяжкі. А робяць гэта звычайна кабеты, бо дворнічых значна болей, чым дворнікаў.*




І ўсё ж у брудных сумётах вінаватыя не дворнікі. Іх у сталіцы ўсяго толькі 4 тысячы з лішкам, а патрэбна ўдвая болей. Няшмат народу ідзе на малапрэстыжную і малааплатную працу. Нават тое, што дворнікам службовую кватэру даюць, не заваблівае.

Сёлета дворнікам, якія і так заўсёды мусяць працаваць за дваіх, зусім цяжка прыйшлося. Зіма выдалася ў параўнанні з мінулымі гадамі досыць снежнай і халоднай.

У «Гаррамаўтадары», які займаецца чысткай гарадскіх дарог, кажуць, што такіх снежных заносаў не было ад году Чарнобыльскай аварыі. Паводле метэаралагічнай службы, у канцы снежня і ў пачатку студзеня выпала трохмесячная норма снегу. На аўтамабільныя дарогі і ходнікі высыпалі рэкордную колькасць солі і пяску. Тым не менш, усё адно некалькі дзесяткаў жыхароў сталіцы атрымалі траўмы з-за слізгаты.

Нікуды не падзецца і ад таго, што салявыя сумесі, якія выкарыстоўваюцца ўзімку, псуюць абутак і машыны. У свеце існуюць самыя розныя тэхналогіі – ад падагрэву асфальту да палівання яго акіянскай вадою, як у Японіі. У Мінску збіраюцца дзеля эксперыменту скарыстаць новыя, магчыма, менш шкодныя і больш танныя сумесі з адходаў калійнай солі, а таксама адмысловыя вадкасці, распрацаваныя ў маскоўскіх лабараторыях.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Чыноўнік таксама чалавек...

*Усім нам у штодзённым жыцці даводзіцца звяртацца да чыноўнікаў рознага ўзроўню. Як паблукаеш па калідорах установаў, складаецца ўражанне, што наведнікі і чыноўнікі знаходзяцца ў стане вайны.*

Цяперашнім чыноўнікам разумныя людзі не зайздросцяць. Чыноўнік знаходзіцца між двух агнёў: з аднаго боку – наведнікі, заўжды гатовыя паскардзіцца вышэй ці Самому, з другога – абмежаваныя магчымасці. Толькі ў нашай краіне самы галоўны чыноўнік унікае ўва ўсялякія дробныя пытанні. Электарату гэта падабаецца, але тым самым у ім выхоўваецца пагарда да мясцовай улады.

А як жа чыноўнікі? Каб даведацца іхнае думкі, мы спачатку звязаліся з тымі, хто да нас найбліжэйшы. Начальнік аднаго з ЖЭСаў заявіў, што нічога не будзе казаць журналістам: менш скажаш – болей пражывеш. Яго калега з другога ЖЭСу адказаў, што за гутаркі з журналістамі яму не плацяць.

Адзін участковы інспектар міліцыі парадзіў звяртацца да вышэйшага начальства. Другі паабяцаў праз два гады (калі выйдзе на пенсію) расказаць усё, а пакуль ён захоўвае абет маўчання.

Чыноўнікі вышэйшыя рангам аказаліся больш ветлівыя і зычлівыя, чым іх падначаленыя.

**Намесніца кіраўніка адміністрацыі Ленінскага раёну г.Мінску Марыя Сарока:**

— Людзі да нас прыходзяць, калі ў іх з'яўляецца нейкая праблема. Часам яны ўжо з некім параіліся, нешта прачыталі. Ім здаецца, што праўда на іх баку, а ад чыноўніка залежыць толькі прызнанне гэтае праўды. У гэтай сітуацыі, што і як чалавеку ні тлумач, ён чуе толькі тое, што хоча пачуць. Чыноўнікі таксама людзі, і ім шкада чалавека, хочацца яму дапамагчы, а даводзіцца казаць «не». Магу сказаць, што з чалавекам, які мае здаровы розум, заўсёды можна знайсці агульную мову, нешта растлумачыць. Другая рэч, што ёсць катэгорыя «прафесійных хадзільшчыкаў». Іх няма сэнсу ў нечым пераконваць, у іх заўсёды свая праўда, яны па-свойму трактуюць законы. Гэтых людзей немагчыма перавыхаваць. Хадзіць, прасіць, даказваць – гэта іх лад жыцця, якраз у гэтым яны сябе знаходзяць.

Сярод нашых наведнікаў значны працэнт сацыяльных утрыманцаў. Гэтыя людзі перакананыя, што ім усе кругом вінаватыя. Найчасцей яны належаць да пакалення, фармаванне якога прыпала на гады, калі людзям казалі, што пра іх будзе клапаціцца партыя і ўрад, а ад самога чалавека нічога не залежыць. І вось прыходзіць такая жанчына і пытаецца: «Хутка першае верасня. Хто будзе купляць абутак маім дзецям?»

Людзі стараюцца адразу ісці да вышэйшага начальства. Які сэнс ісці да дырэктара школы? Ён жа шмат ведае пра дзіця: пра паспяховасць, дысцыпліну. Прыйшоўшы ў Адміністрацыю, можна расказаць, якое дзіця геніяльнае, як яго ў школе прыцясняюць. І потым, людзі перакананыя, што ўсё вырашае толькі вышэйшае кіраўніцтва, а на месцах усе абсалютна безуладныя і безініцыятыўныя, працуюць толькі «з-пад палкі» тых, хто стаіць вышэй. І наша бяда, шіто ў гэтым ёсць доля праўды. Часта ў раённую адміністрацыю і вышэйстаячыя органы ўлады людзі мусяць звяртацца з-за службовага баязліўства чыноўнікаў. На жаль, не ўсе гатовыя ўзяць на сябе адказнасць за прынятае рашэнне. Некаторыя чыноўнікі разважаюць так: калі я нічога не зраблю, то нічога мне і не будзе, а вось калі прыму нейкае рашэнне, то можа і ўляцець. Так што часам наведнікі заслужана крыўдзяцца на іх.

Самыя цяжкія наведнікі – гэта жанчыны, якія скардзяцца на сваіх мужоў. Я думала, што гэтая з'ява знікла разам з парткамамі. Аказалася, не. Вядома, я іх выслухоўваю, нават чыста па-жаночы шкадую. Але чаму сваю асабістую праблему яны хочуць вырашыць за кошт адміністрацыйнага рэсурсу? «Звольніце палюбоўніцу майго мужа», — просяць жанчыны. Але як яе звольніць? І хіба гэта вырашыць праблему?

Я думаю, што ўсе гэтыя праблемы ад адсутнасці выхавання элементу асабістай адказнасці за працу і асабістае жыццё. У савецкія часы людзі ведалі, што добра і што кепска, проста таму, што не было выбару. Цяпер ёсць выбар, але людзі баяцца гэтага, яны не прывыклі. Бо выбар – гэта заўсёды адказнасць.

**Намеснік начальніка УУС Цэнтральнага раёну г.Мінску, падпалкоўнік міліцыі Аляксандр Барсукоў:**

— У нас яшчэ бываюць наведнікі з псіхалогіяй 37-га году. Яны хочуць, каб мы праверылі, адкуль у суседа з'явіліся грошы на аўтамабіль. Ім замінаюць дзеці, якія гуляюць у футбол. А за ката, які мяўкае ў адзінокай суседкі, патрабуюць для гаспадыні найвышэйшае меры пакарання.

Ёсць катэгорыя вельмі нахабных людзей, якія ігнаруюць інструкцыі, распараджэнні. Лічаць, што ўсё гэта пішуць для дурных. А вось яны такія разумныя, абаяльныя, што ім, напрыклад, зарэгіструюць аўтамабіль без падачы ўсіх неабходных дакументаў. Але так не бывае, і тады ў чым заўгодна вінавацяць супрацоўнікаў ДАІ. У пашпартна-візавую службу часта звяртаюцца бацькі амаль васемнаццацігадовых дзяцей. Ім раптам пашпарт спатрэбіўся, прычым тэрмінова. Зноў мы вінаватыя, а яны жывуць на бязлюдным востраве і не ведаюць, што пашпарт трэба атрымліваць у 16 гадоў.



Людзі чамусьці перакананыя, што іх праблему можа вырашыць самы вялікі начальнік. Замест таго, каб звярнуцца да ўчастковага, яны ідуць да начальніка РАУС. Ясна, што самая дробная праблема атрымлівае ў іхніх вачах буйны памер. Пры гэтым у нас кожны сам сабе юрыст, эканаміст і доктар. Тым не менш, людзі не ведаюць, па якім пытанні трэба звяртацца ў пракуратуру, а па якім – у міліцыю. Калі ім гэта тлумачыш, яны лічаць нас бяздушнымі чыноўнікамі, якія адфутбольваюць наведнікаў. Зірніце, колькі ў краіне розных праваабарончых грамадскіх арганізацыяў. Але іх дзейнасць накіравана на вельмі абмежаваны кантынгент. Так, яны будуць бараніць вядомага палітыка, але чаму яны абыякавыя да простага слесара? Не дзіва, што чалавек, які трапіў у бяду, адчувае сябе яшчэ больш безабаронным: ён не ведае ні сваіх, ні нашых правоў і абавязкаў. Што б там ні пісалі і ні казалі пра міліцыю, наш абавязак – бараніць грамадзян. І таму законапаслухмяны чалавек не павінен баяцца звяртацца ў міліцыю, калі здарылася бяда, але можа проста прыйсці і параіцца, калі складаецца сітуацыя, якая выклікае боязь. А то ў нас увайшло ў традыцыю «рабіць захады», калі нешта здарылася. Вось стаў чалавек інвалідам, і ім апякуецца адпаведнае таварыства. А можа, калі б раней на чалавека звярнулі ўвагу, памаглі яму, ён і не стаў бы інвалідам?

Не ўсё ў нашым жыцці адназначна. Часта не чыноўнік наш галоўны вораг, а мы самі, калі лічымся толькі са сваімі пачуццямі і забываем, што вакол нас таксама людзі з такімі ж, як у нас, праблемамі.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

# Гадаванне дзіцяці – дапамажы сабе сам

Паводле апошняга перапісу насельніцтва, у Беларусі налічваецца 2,9 мільёна сем'яў, у кожнай другой сям'і гадуецца непаўналетняе дзіця. Больш за палову сем'яў маюць толькі адно малое, а двух рызыкнулі завесці толькі ў кожнай трэцяй сям'і. Такім чынам, цяпер на адну сям'ю ў сярэднім прыпадае 1,3 дзіцяці, хоць толькі для таго, каб нацыя натуральна ўзнаўлялася, кожная пара мусіць выхоўваць не менш за двух малых.

Шукаючы прычыны малой нараджальнасці, традыцыйна прынята спасылацца на кепскае матэрыяльнае становішча і смешныя памеры сацыяльных дапамог сем'ям з дзецьмі. За 20-30 тысяч рублёў на месяц нават эканомная маці дзіцяці не пракорміць. На думку галоўнага акушэра-гінеколага Беларусі Уладзіміра Сілявы, «разлічваць толькі на сацыяльную дапамогу – гэта ўтопія». Нарадзіць і спіхнуць утрыманне, выхаванне свайго дзіцяці на дзяржаву – гэта ганебная бацькоўская безадказнасць.

У кожнай краіне свету на гэтую праблему свой пункт гледжання. Увогуле існуюць два віды дапамог на дзяцей. Першы – універсальны, калі грашовая дзяржаўная падтрымка адрасуецца ўсім сем'ям, што маюць дзяцей. Такая сістэма дзейнічае ў краінах Паўночнай Еўропы. Другі – адрасны, калі дапамога прызначаецца толькі малазабяспечаным сем'ям. Гэтага падыходу прытрымліваюцца ў ЗША, Канадзе, і апошнім часам да яго схіляецца ўсё больш краінаў свету. Для незаможных дзяржаваў гэта дзейны спосаб скарачэння бюджэтных выдаткаў. У Канадзе на дапамозе прыкладна ў 50 даляраў занадта не разжывешся, затое ў Нарвегіі яна складае звыш 150 даляраў, а ў ЗША ў розных штатах вагаецца ад 130 да 600 даляраў.

Таму ў ЗША нават пры адрасным падыходзе вельмі заклапочаныя тым, што дзяржаўная падтрымка можа разбэсціць чалавека. Некаторая асцярога маецца і адносна няпоўных сем'яў, якім выплачваюцца павялічаныя сумы, таму іх атрыманне абумоўлена абавязковай прафесійнай занятасцю ці навучаннем. А англічане, абвесціўшы барацьбу з разводамі, увогуле абмежавалі правы адзінокіх маці на дзяржаўную падтрымку.

Незаможная Беларусь змагла дазволіць сабе нават дзве сістэмы дапамог. Мінімальную дапамогу атрымлівае кожная сям'я з дзіцем да трохгадовага ўзросту (адзінокая маці мае падвышку на 25%), а малазабяспечаным да гэтага належыць яшчэ і матэрыяльная дапамога ў выглядзе ільготаў і дадатковых сумаў на дзяцей, якім больш за тры гады.

Паводле словаў начальніка ўпраўлення сацыяльнай дапамогі і сацыяльнага абслугоўвання міністэрства працы і сацыяльнай абароны Таццяны Шаметавец, усталяваўшы сёлета памер дапамогі сем'ям з дзецьмі на ўзроўні 65% да бюджэту пражытковага мінімуму, каб забяспечыць мізэрнае падвышэнне дапамогі на 10 тысяч рублёў, дзяржаве прыйдзецца шукаць дадаткова яшчэ 24 мільярды рублёў.

Натуральна, на значнае падвышэнне памеру дапамогі грошы знойдуцца яшчэ не хутка. Аднак гэта яшчэ не прычына ўвогуле адмаўляцца ад бацькоўства. А таму варта ўжо цяпер адвучвацца ад звычкі залежаць ад дзяржавы і пачынаць спадзявацца толькі на сябе.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

# Беларускія самалёты занадта шумныя

Магчымасці Нацыянальнага аэрапорту «Мінск-2», які з 1995 году афіцыйна завецца проста «Мінск», выкарыстоўваюцца толькі на 10%. Па сваіх тэхнічных характарыстыках аэрапорт можа абслужыць 5,8 мільёна пасажыраў на год і апрацоўваць да 300 тонаў грузаў у суткі. Па словах генеральнага дырэктара аэрапорту Сяргея Серадзюка, праз ягоныя сцены мінулым годам прайшло толькі 422 тысячы чалавек і дзесятая частка ад максімальнага аб'ёму грузаў. Але ў параўнанні з вынікамі працы ў 2000 годзе гэта нават прырост: колькасць пасажыраў павялічылася на 5%, а аб'ёмы грузапатоку – на 16%.

Самалёты беларускіх авіякампаніяў, як і расійскіх, не адпавядаюць стандартам Міжнароднай арганізацыі грамадзянскай авіяцыі (ІКАО) па шумах, таму плануецца ў перспектыве ўвогуле абмежаваць допуск гэтых самалётаў у еўрапейскія краіны. Мінулым годам на восеньскай сесіі ІКАО было вырашана адтэрмінаваць гэтыя забароны на некалькі гадоў. Аднак улады любой краіны свету могуць вырашаць гэтае пытанне самастойна. І некаторыя з гэтага права ўжо скарысталіся. Напрыклад, кампанія «Белавія» ўжо мае абмежаванні на палёты ў Франкфурт. Па нядзелях самалёты, якія не адпавядаюць нормам па шумах, а гэта, прыкладам, ТУ-134, ТУ-154Б, у тамтэйшы аэрапорт не дапускаюцца. Жорстка пастаўлена гэтае пытанне і адносна самалётаў расійскіх авіякампаніяў, якія перасякаюць межы Еўразоны. Калі гэта не вырашыцца дыпламатычнымі шляхамі, то бліжэйшым часам яны ўжо не змогуць лятаць у краіны Еўрапейскага Саюзу. Можна чакаць, што наступнымі будзем мы.

Першыя самалёты з узлётных палосаў Нацыянальнага аэрапорту «Мінск» пачалі ўзлятаць у 1982 годзе, калі была здадзеная першая чарга будаўніцтва, і першым часам толькі ўлетку. З 1983 году рэйсы сталі рэгулярнымі, а ў 1989 годзе быў здзейснены першы міжнародны рэйс. Найлепшыя свае часы аэрапорт перажываў у 1991 годзе, калі ён абслужыў больш за 2 мільёны пасажыраў, звыш за 13 тысяч самалётавылетаў і прапусціў 8 тысяч тон грузаў.

Як падкрэсліў Сяргей Серадзюк, аэрапорт не мае ва ўласнасці самалётаў, а толькі стварае належныя ўмовы, каб абслугоўваць авіякампаніі. Каля 65% аб'ёму ўсіх перавозак праз аэрапорт належыць кампаніі «Белавія», а астатняе падзяляюць паміж сабою замежныя авіякампаніі.

Каб адпавядаць міжнародным стандартам, яшчэ ў 1986 годзе аэрапорт «Мінск» прайшоў сертыфікацыю Міжнароднай арганізацыі грамадзянскай авіяцыі і стаў восьмым аэрапортам сярод савецкіх рэспублік, сертыфікаваным па 2-ой катэгорыі ІКАО. Гэта значыць, што сістэмы пасадкі, святла на пасадачных палосах мусяць адпавядаць патрабаванням гэтай арганізацыі. Па 2-й катэгорыі ІКАО зараз сертыфікавана большасць аэрапортаў краінаў Заходняй Еўропы, а 3-й – найвышэйшай катэгорыі – змаглі дасягнуць толькі адзінкі.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Верталёт МІ-8 стаў брацкай магілай

У мінулую нядзелю ў Чачні разбіўся верталёт унутраных войскаў МУС Расіі, на борце якога знаходзіліся 14 чалавек. Як паведамляюць у УУС Чачні, машына выбухнула ў паветры. Па папярэдніх звестках, прычына катастрофы – тэракт. Сярод ахвяраў – намеснік міністра ўнутраных спраў Расіі, начальнік Галоўнага ўпраўлення МУС РФ па Паўднёвай федэральнай акрузе генерал-лейтэнант Міхаіл Рудчанка, намеснік галаўкама ўнутраных войскаў генерал-маёр Мікалай Гарыдаў, намеснік камандуючага Аб'яднанай групоўкай федэральных сілаў на Паўночным Каўказе ад МУС палкоўнік Юрый Арленка, палкоўнікі Сцепаненка і Трафіменка, трое чальцоў экіпажу і трое ахоўнікаў.

Паводле папярэдняй версіі, баевікі абстралялі верталёт з гранатамётаў або з ПЗРК. Якраз у Шалкаўскім раёне ў нядзелю раніцай групы супрацоўнікаў райаддзелаў УФСБ, міліцыі і байцоў раённай камендатуры праводзілі спецаперацыю. У лесе ў станіцы Старашчадрынская былі выяўлены дзве зімовыя стаянкі, разлічаныя на 15 чалавек. Як сцвярджаюць вайскоўцы, усе падыходы да гэтай базы аказаліся замінаваныя. Вайскоўцы абясшкодзілі 10 супрацьпяхотных мін заходняй вытворчасці. Аднак баевікі паспелі пакінуць схованку незадоўга да аперацыі. Не выключана, што якраз гэтая група і здзейсніла напад на верталёт федэральных сілаў. Ускосна версію тэракту, прапанаваную аператыўна-следчай групай, пацвердзілі і ананімныя крыніцы ў адміністрацыі Шалкаўскога раёну рэспублікі. Эксперты, якія даследавалі частку абшыўкі верталёта, прыйшлі да высновы, што выбух, які стаўся прычынай катастрофы, адбыўся звонку верталёта. Цалкам верагодна, што верталёт быў збіты.

Гэтая катастрофа – другая за апошнія паўгода ў Чачні. У пачатку верасня 2001 году ў Грозным, над сумна вядомай плошчай «Мінутка» баевікі з пераноснага зенітна-ракетнага комплексу збілі верталёт МІ-8МТ, які падняўся з урадавай пляцоўкі.

## Памерла Астрыд Ліндгрэн



У Швецыі ў сваёй стакгольмскай кватэры на 95-ым годзе пайшла з жыцця пісьменніца Астрыд Ліндгрэн.

Свет ведаў Ліндгрэн як аўтарку кніг «Малыш і Карлсан» (1955–68), «Пэпі Доўгаяпанчоха» (1944), «Расмус–бадзяга» (1956), «Роні, дачка разбойнікаў» (1981).

Кнігі Ліндгрэн перакладзеныя на 80 моваў. Яны зрабілі рэвалюцыю ў розумах мільёнаў дзяцей. Героі Ліндгрэн сталі нацыянальнымі літаратурнымі героямі ў шмат якіх краінах. Ужо немагчыма ўявіць сабе казачны свет, які належыць усім чытачам, без Карлсана ці Пэпі. Героі Астрыд Ліндгрэн паяднаўваюць агульнымі пачуццямі людзей розных кантынентаў, пачынаючы з іх першага знаёмства з кнігамі пісьменніцы ў дзяцінстве.

Большую частку свайго жыцця гэтая жанчына, якая нарадзілася на хутары ў беднай шведскай правінцыі Смоланд, дарыла радасць людзям – сваім блізкім, усім шведам, усяму чалавецтву.

# Анёлы смерці з Чырвоным крыжам

*У Польшчы арыштавана сем чалавек па так званай «справе дактароў». Паліцыя польскага гораду Лодзі высветліла, што дактары «хуткай дапамогі» тут сістэматычна паскаралі смерць пацыентаў, якія траплялі да іх у крытычным стане, каб атрымаць камісійныя ад пахавальных службаў. Страшная навіна, якая была абвешчаная дзякуючы вялікай публікацыі ў Gazecie Wyborczej, змусіла палякаў здрыгануцца ад жаху. Цяпер яны баяцца тэлефанаваць у «хуткую дапамогу» нават у крайняй патрэбе.*

У рэпартажы паведамляецца, што дактары з Лодзі пры садзейнічанні санітараў і кіроўцаў машын неадкладнай дапамогі рабілі сваім ахвярам ін'екцыі прэпаратаў, якія выклікалі затрымку дыхання і вялі да смерці хворых. Гаворка пра медыкамент «Павулон», сінтэтычнае вытворнае яду курарэ, які звычайна выкарыстоўваецца толькі дасведчанымі анестэзіёлагамі падчас аперацый, г.зн. у выпадках, калі пацыентам патрабуюцца спецыяльныя апараты для падтрымкі дыхання.

Паліцыя канстатавала: у аддзяленні неадкладнай дапамогі ў Лодзі «Павулон» выкарыстоўваўся так часта, што гэта выклікала падазрэнне спецыялістаў. *Gazeta Wyborcza* заяўляе, што, згодна з атрыманай інфармацыяй, медыкі, апроч гэтага, часта затрымліваліся з выездам на выклік, спадзеючыся прыехаць ужо пасля смерці хворага. У газеце прыводзіцца інтэрв'ю з адным з дактароў, які злавіў санітара на месцы злачынства: той рабіў ін'екцыю пацыентцы, якая хутка пасля гэтага памерла.

«Я спытаў яго, які прэпарат ён ёй уводзіў, і ён адказаў: як і звычайна – Павулон». «Гэта ж медыкамент, які прыводзіць да расслаблення цягліц, паралічу лёгкіх, што канчаецца асфіксіяй пацыента і суправаджаецца страшнай агоніяй, бо хворы не траціць прытомнасці і цудоўна разумее, што памрэ», – сказаў доктар, імя якога суддзі хаваюць.

Адзін з кіроўцаў машын хуткай дапамогі, які пакінуў працу, бо не жадаў удзельнічаць у такіх расправах, расказаў, што ў клініцы ў Лодзі быў адзін бязлітасны доктар, імя якога да гэтай пары не называецца. «Мы далі яму мянушку Анёл смерці з Менгеле, па імені вядомага нацысцкага медыка, які забіваў вязняў канцэнтрацыйнага лагеру ў Асвенцыме», – расказаў кіроўца ў інтэрв'ю газеце.

Калі хворы паміраў, дактары прымусам ці падманам дабіваліся, каб ягоныя сваякі выбіралі тыя пахавальныя канторы, якія плацілі большыя камісійныя. За атрыманых такім чынам «кліентаў» службы плацілі 1 200-1 800 злотых (340-510 еўра), і эксперты падлічылі, што на працягу году гэтая сума складала мільёны злотых. Усё ўсплыло на паверхню, калі пост дырэктара аддзялення неадкладнай дапамогі заняў доктар Багуслаў Тыка, які не захацеў цярпець такой практыкі, што пачалася дзесяць гадоў таму.

Прадстаўнікі паліцыі пацвердзілі паведамленні прэсы пра тое, што пахавальныя бюро Лодзі выплачвалі да 1 800 злотых (450 даляраў) за паведчанні аб смерці і што медработнікі маглі забіваць пацыентаў, каб атрымаць узнагароджанне.

Расследаванне ўзяў пад асабісты кантроль прэм'ер-міністр Польшчы. Паліцыя вядзе расследаванне гэтых жахлівых фактаў і разглядае магчымасць эксгумацыі целаў для пошукаў рэштак яду.



## Літва перадае Ізраілю сувоі Торы

Найбліжэйшым часам урад Літвы перадасць Ізраілю каля 300 сувояў Торы, якія захоўваюцца цяпер у Нацыянальнай бібліятэцы ў Вільнюсе.

Гаворка вядзецца пра скруткі, якія ацалелі пасля разрабавання і руйнавання вільнюскіх сінагог у гады гітлераўскай акупацыі. Частку іх спецыялісты адрэстаўравалі, але многія скруткі непрыдатныя да выкарыстання ў богаслужбовых мэтах. У Ізраілі іх рэстаўруюць і размяркуюць паміж рэлігійнымі абшчынамі.

Паводле іудзейскай традыцыі, сувоі рэлігійных тэкстаў, якія аджылі свой век, належыць хаваць у зямлі.

Рашэнне пра вяртанне сувояў габрэйскім рэлігійным абшчынам урад прыняў яшчэ мінулым годам, аднак не выканаў да гэтай пары. Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус загадаў, каб урад прыняў тэрміновыя меры па выкананні гэтага рашэння.

Чакаецца, што 30 студзеня ў Вільнюсе адбудзецца ўрачыстая цырымонія перадачы скруткаў Торы габрэйскім вернікам, у якой возьмуць удзел прадстаўнікі Ізраілю.

# За і супраць «Еўралэнду»

**Нільс ТЫГЕСЕН,**
**прафесар міжнароднай эканомікі Капенгагенскага ўніверсітэту**

*Адсутнасць неладоў пры з'яўленні банкнот і манет еўра стала прычынай важнага перагляду канчатковых мэтаў аб'яднання еўрапейскіх валют.*

Наконт гэтага існуюць два пункты гледжання, якія ўзніклі яшчэ ў канцы 1980-х, калі гэты працэс яшчэ толькі пачынаўся. Згодна з першым пунктам гледжання, манетарны саюз усяго толькі імкнецца кансалідаваць адзіны міжнародны рынак тавараў і паслуг; прыхільнікі другога пункту гледжання бачаць у еўра механізм для стварэння шчыльнейшага палітычнага саюзу.

Не варта недаацэньваць ступені ўздзеяння еўра на эканоміку. Хоць найбольшы крок у аб'яднанні валют быў зроблены тады, калі нацыянальныя валюты сталі складовымі часткамі еўра, з'яўленне банкнотаў і манет еўра стварае дадатковыя перавагі. Празрыстасць рознічных цэнаў ажывіць канкурэнцыю. Цэны і інфляцыйныя чаканні з гэтага часу ўсё больш будуць кіравацца агульным тэмпам інфляцыі – будуць утрымлівацца на нізкім і стабільным узроўні агульнай манетарнай палітыкай – а не хісткімі і моцна адрознымі нацыянальнымі цэнамі.

Але ці ўмацуе канчатковае аб'яднанне валют еўрапейскі палітычны саюз? Каб дамагчыся яснейшай карціны, пытанні, звязаныя з аб'яднаннем валют, трэба выразна адасобіць ад шырэйшых палітычных пытанняў.

Ці зможа прыход еўра падштурхнуць краіны-ўдзельніцы да ўсталявання больш шчыльнага палітычнага саюзу, чым гэта трэба дзеля забеспячэння адзінай манетарнай палітыкі?

Па-за зонаю еўра – у Злучаным Каралеўстве, Швецыі і Даніі – з апладысментамі сустрэлі надзвычай гладкі дэбют банкнот і манет еўра. Зрух грамадскае думкі ў бок сяброўства ў зоне еўра найвыразней назіраецца ў Швецыі, бо там слабая шведская крона таксама спрыяе змене настрою на карысць далучэння. І праўда, што ў адказ на гэта прэм'ер-міністр Швецыі Персан прызнаў неабходнасць прызначыць рэферэндум пра ўваходжанне ў зону еўра на 2003 год, пасля таго як у верасні гэтага году адбудуцца парламенцкія выбары.

Больш за тое, шведы не самотныя ў пераасэнсаванні свайго стрыманага падыходу да еўра. Як цвердзяць тыя, хто праводзіць апытанні грамадскае думкі, пасля таго, як еўра з'явілася ў крамах, традыцыйная нарвежская варожасць да ўдзелу ў Еўрасаюзе пайшла на спад; а ўрад Вялікабрытаніі яшчэ больш настойліва заявіў пра сваё абяцанне ацаніць магчымасць уваходу Вялікабрытаніі ў зону еўра да сярэдзіны 2003 году.

Акрамя таго, што Швецыя і Аб'яднанае Каралеўства павінны і надалей адпавядаць другім крытэрыям Маастрыхцкай дамовы, яны мусяць пераканаць сваю грамадскасць і сваіх партнёраў па зоне еўра, што яны патрапяць кіраваць сваімі эканомікамі без дапамогі нацыянальнай манетарнай палітыкі. Ім таксама давядзецца дамовіцца пра тое, па якім курсе будуць пераводзіцца іх валюты ў еўра пры іх уваходзе ў зону еўра. Калі яны гэта зробяць, то еўра можа быць уведзены найраней у 2006 годзе, пры ўмове станоўчых вынікаў рэферэндуму, які адбудзецца ў 2003 годзе.

У Даніі эканамічная гатоўнасць – не праблема. Рэч у тым, што дацкія ўдзельнікі рэферэндуму ўжо ўбачылі большую выгаду ўдзелу ў зоне еўра, бо вось ужо 15 гадоў існуе нязменная прывязка спярша да нямецкай маркі, а потым да еўра. Тое, што грамадства адрынула еўра ў верасні 2001 году, тлумачыцца няздольнасцю прыхільнікаў еўра патлумачыць розніцу паміж гэтай палітыкай, якая не выклікае спрэчак, і поўным прыняццем еўра. У выніку Данія можа прагаласаваць па гэтым пытанні апошняя, і зусім не факт, што пасля рэферэндуму яна далучыцца.

Нягледзячы на розныя стартавыя пазіцыі, Швецыя, Данія і Аб'яднанае Каралеўства сыходзяцца ў наступным: яны лепш хочуць бачыць еўра як замковы камень у купале канструкцыі адзінага рынку, чым як прыступку на шляху да шчыльнейшага саюзу. Тыя энтузіясты, якія звязваюць еўра з палітычным саюзам, тым самым робяць яму мядзведжую паслугу, бо адпуджваюць грамадскія сілы, якія падтрымліваюць прыняцце еўра.



# Экалагічная катастрофа ў Афганістане

*Апроч палітычнага і гуманітарнага крызісу, Афганістан перажывае сапраўдную экалагічную драму. Два дзесяцігоддзі вайны знішчылі значную частку расліннага і жывёльнага свету.*

Афганістан напаткала новая катастрофа – экалагічны крызіс, выкліканы амерыканскімі бамбаваннямі, шматгадовай грамадзянскай вайной і засухай. На першых палосах газет гуманітарныя тэмы змяняюцца палітычнымі, адсоўваючы такім чынам на задні план праблему знікнення месцаў існавання жывёльных відаў і багатай у мінулым жывой прыроды, знішчанай вайной.

У лютым 2002 году ААН збіраецца паслаць у гэты рэгіён сваю працоўную групу, каб ацаніць маштабы шкоды, якую нанесла вайна. «Здаровае навакольнае асяроддзе – адна з умоў засялення тэрыторый», – лічыць Клаўс Тэпфер, упаўнаважаны Праграмы па навакольным асяроддзі ААН. «Некалі поўдзень краіны быў пакрыты густымі лясамі, якія палівалі мусонныя залевы. Сёння лясы пакрываюць усяго толькі 2% тэрыторыі. Самае вялікае знішчэнне лясоў адбылося пры рэжыме талібаў, калі іх мафія прынялася высякаць лес для продажу на пакістанскіх рынках», – распавядае Усман Казі, спецыяліст па пытаннях навакольнага асяроддзя ў Кета (Пакістан).

Уцекачы руйнуюць навакольнае асяроддзе, робяць шмат дзе непапраўную шкоду. Лясы выкарчоўваюць, бо трэба весці сельскую гаспадарку, але можа стацца, што зямля ў хуткім часе перастане прыносіць ураджай. «Урэшце зямля зробіцца непрыдатнай для самага прымітыўнага апрацавання», – перасцерагае Хамад Накі, прадстаўнік Сусветнага фонду абароны дзікай прыроды ў Пакістане. Уцекачы (іх, па апошніх падліках, каля чатырох мільёнаў) сякуць лес на дровы.

Інтэнсіўныя ўдары па Афганістане стварылі наўскрай цяжкія ўмовы для выжывання дзікіх жывёлаў. Такія птушкі, як пелікан і сібірскі журавель (від, які знікае), перасякаючы ўсход краіны, кіруючыся па міграцыйных шляхах з Сібіры ў Індыю і Пакістан. Але колькасць птушак, што праляталі над гэтым рэгіёнам, знізілася на 85%. «Жураўлі вельмі далікатныя, і яны мяняюць свой маршрут, калі адчуваюць хоць малую небяспеку», – тлумачыць Ашык Ахмад, даследчык навакольнага асяроддзя з *WWF* у Пешавары. Горы, як правіла, служаць сховішчам для леапардаў, газеляў, мядзведзяў і быкоў Марка Пола. «На тэрыторыі, дзе змагаліся баевікі талібаў, перш чым іх выцеснілі на ўзгор'і, да сёння захоўваліся ўмовы для выжывання дзікіх жывёлаў», – зазначае Пітэр Залер з Таварыства абароны дзікай прыроды, штаб-кватэра якога знаходзіцца ў Нью-Йорку. «Аднак бамбаванні і вялікая колькасць уцекачоў становяць сур'ёзную небяспеку», – кажа ён. Так, некаторыя ўцекачы палююць на снежных барсаў, каб забяспечыць сабе пераход цераз мяжу. «Адна скура гэтай рэдкай жывёліны можа прынесці на чорным рынку да 2 000 даляраў», – распавядае Пітэр Залер. У Цэнтральнай Азіі застаецца ўсяго 5 000 снежных барсаў, з іх менш за сотню – у Афганістане, дзе яшчэ да пачатку канфлікту іх колькасць рэзка скарацілася з-за палявання і браканьерства з мэтай продажу ў Пакістан.

Лес, драпежнікі і зёлкі – таксама аб'екты браканьерства. На думку ваенных спецыялістаў, прымяненне класічных выбуховых рэчываў прывяло да забруджання навакольнага асяроддзя (бо збеднены ўран ужываўся менш, чым падчас баявых дзеянняў у Косаве). У гэтых рэчывах утрымліваюцца таксічныя прадукты, такія, як цыянід, канцэрагены, а ракетныя рухавікі выкідаюць перхлараты, якія разбураюць шчытападобную залозу.

**New Scientist**

# Дэміс Русас: «У Беларусі самыя прыгожыя дзяўчаты»

*28 студзеня ў канцэртнай зале Палацу Рэспублікі выступіў сусветна вядомы спявак Дэміс Русас. Першы раз ён даваў канцэрт у Беларусі ў 1997 годзе. Цэны квіткоў на ягоны выступ былі досыць сціплыя (на канцэрт Алсу, напрыклад, цэны значна вышэйшыя): самыя дарагія ўсяго толькі за 60 тысяч рублёў (у Алсу, адпаведна, да 90 тысяч). Аднак, як прызнаўся распаўсюджвальнік квіткоў у пераходзе каля станцыі метро «Кастрычніцкая», нягледзячы на гэта, на Алсу наш народ купляе квіткі з большым запалам, чым на Русаса. Перад канцэртам спявак даў прэс-канферэнцыю, на якой адказаў на пытанні беларускіх журналістаў.*



**Даведка НАШАЙ СВАБОДЫ**

Сапраўднае імя Дэміса Русаса – Артэміяс. Ягоныя бацькі – грэкі, а нарадзіўся ён у Егіпце ў 1946 годзе. Падчас Суэцкага крызісу ўсёй сям'і давялося вярнуцца ў Грэцыю звычайнымі эмігрантамі. Каб пражыць, Дэміс ужо юнаком пачаў зарабляць грошы самастойна. Так распачалася ягоная кар'ера: ад звычайнага музыкі ў кабарэ да сусветна вядомай зоркі. Самая вядомая ягоная песня – «*Good bay my love, good bay*». Слава да Дэміса прыйшла ў 1971 годзе. Ягоны імідж называлі эксцэнтрычным: мажны (пад 150 кілаграмаў) чарнявы барадач у шырокім балахоне і капелюшы з вялікімі палямі. У сярэдзіне 1980-х гадоў ён здолеў скінуць пад 30 кілаграмаў вагі, а потым нават напісаў цэлую кнігу пра свой метад пахудзення, якая стала бестселерам.

***– Спадар Русас, гэта ваш другі візіт у Беларусь. Ці заўважылі вы нейкія змены, і увогуле, якія асацыяцыі выклікае ў вас наша краіна?***

– Пакуль я яшчэ не заўважыў якіх-небудзь зменаў. Ва ўсялякім разе, зала, у якой мы знаходзімся, файная і нашмат лепшая за тую, у якой я выступаў мінулым разам. Аднак ацяпленне ў аўтамабілі працуе так жа кепска, як і раней. Калі я прыязджаю ў нейкую краіну і яна падабаецца мне, то не думаю, што трэба верыць гэтым уражанням. У другі прыезд я звычайна стараюся праверыць свае пачуцці.

***– Вы выступалі ў дзень народзінаў прэзідэнта Казахстана?***

– Так, я нават танчыў з ягонай жонкай. Гэта, дарэчы, было самым забаўным.

***– Ці даводзілася вам яшчэ спяваць перад першымі асобамі?***

– Натуральна, за трыццаць пяць гадоў я шмат разоў прымаў удзел у такіх мерапрыемствах.

***– Ці даводзілася вам калі-небудзь ахвяраваць сваёй творчасцю дзеля кахання?***

– Натуральна, даводзілася. Асабліва гэта тычыцца маіх дзяцей. Паколькі я шмат часу ім не дадаў у свой час, зараз я імкнуся як мага больш часу прысвяціць ім.

***– Раскажаце, калі ласка, пра ваш погляд на шлях развіцця сучаснай эстрады?***

– Сёння па ўсім свеце можна назбіраць шмат талентаў, можа, нашмат болей, чым у 60–70-ыя гады. Многія кажуць, што той час быў часам вялікай музыкі, але гэта не зусім так. Бо ў кожную эпоху гістарычнага развіцця заўсёды былі творчыя выканаўцы. Розніца толькі ў тым, што ў тыя гады было больш часу для развіцця свайго ўласнага таленту. А сёння гэта ўсё ператвараецца ў канвеер. Талентаў шмат, а мы не ўсе заўважаем, бо час ідзе вельмі хутка.

***– Яшчэ да пытання пра таленты. У Маскве вы спявалі разам з Вітасам, вакол якога шмат спрэчак. А як вы ацэньваеце ягоны голас?***

– Я не меў з ім шмат кантактаў. Я заўважыў толькі, што гэты юнак сціплы і нясмелы. Нам падказалі яго як хлапчака з досыць цікавымі вакальнымі дадзенымі і сказалі, што ў Расіі ён стаў зоркай. Я цалкам даверыўся густу майго прадзюсера.

***– Зараз модная тэндэнцыя ў свеце спяваць дуэтам. Ці ёсць у вас такія задумкі?***

– Я думаю, што гэта цікавая ідэя. У мяне ёсць задумкі наконт выканання дуэтаў з класічнымі спевакамі ў суправаджэнні сімфанічнага аркестру, а таксама этнічнымі музыкамі. Мне было б цікавей заспяваць з якой-небудзь спявачкай ці спеваком з малавядомай краіны, якія маюць вельмі цікавыя вакальныя дадзеныя, чым са знакамітасцямі. Але я думаю, ці варта падпадаць пад уплыў партнёра, супакойваючы сябе тым, што ўдвух мы можам стварыць нешта камерцыйна цікавае. Бо звычайна пры такім раскладзе атрымліваецца якраз наадварот.

***– Калі вы едзеце ў незнаёмую краіну, ці хочаце даведацца што-небудзь пра яе загадзя? І калі так, то што вы даведаліся пра Беларусь?***

– Спецыяльна я нічога не рабіў, каб нешта даведацца пра вашую краіну. А вы лічыце, што я павінен быў падрыхтавацца сябе да такога падарожжа? Я сюды прыехаў таму, што у вас прыгожыя дзяўчаты. Але я не магу з імі сустрэцца. У свае мінулыя візіты я не сутыкаўся з такой праблемай.

***– Ці ацэньваеце вы свой голас як дар прыроды?***

– Так, я ўспрымаю гэта як дар прыроды. У Грэцыі большасць людзей мае добрыя галасы. Грэцыя, можа, і малая краіна, але з вялікай гісторыяй. А чым болей гісторыі, тым багацейшы фальклор, а значыць – багацейшая музыка, мастацтва, песні. А калі Бог надзяліў цябе такім дарам, то трэба развіваць яго, каб не страціць.

***– Чым вас тут кормяць, на якой машыне вы ездзіце і ці праўда, што ў вас запланаваная вячэра з прэзідэнтам Лукашэнкам?***

– Наконт вячэры я чую ўпершыню ад вас. А машына ў мяне – рускі эквівалент «Ролс-Ройса», праўда, задняя дзверы там крыху заядаюць. Таму кожны раз шафёру даводзіцца вяртацца ў машыну, каб адчыніць мне дзверы знутры.

***– Вы скончылі філасофскі факультэт універсітэту. Паміж двума галоўнымі захапленнямі ў вашым жыцці – творчасцю і каханнем – ці засталося месца для філасофіі?***

– На сённяшні дзень я аддаю шмат часу пытанням духу і філасофіі. І мая прафесія звязана з гэтымі праблемамі. Я прыйшоў да таго моманту, калі ўжо не павінен рабіць саступак. Іх даводзіцца рабіць у пачатку любой кар'еры. А цяпер я раблю, што хачу, як хачу і калі хачу. Гэта раскоша, і досыць вялікая. І я жадаю многім артыстам, каб яны змаглі сабе нарэшце гэта дазволіць.

Запісала Алена ЛАБАНАВА

ЮБІЛЕІ

## 150-я ўгодкі «Ідыліі»

Грамадскае культуралагічнае аб'яднанне «Эўрапейскі шлях» і мінскі клуб «Беларуская хатка» адзначаюць 150-годдзе прэм'еры першай вядомай беларускамоўнай оперы «Ідылія». Яе аўтарамі з'яўляюцца выдатныя дзеячы беларускай культуры – драматург Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і кампазітар Станіслаў Манюшка.

Як паведаміў БелаПАНу кіраўнік аб'яднання «Эўрапейскі шлях», культуролаг Аляксей Фралоў, 27 студзеня ў мінскім доме-сядзібе Ваньковіча адбылася вечарына-канцэрт, прысвечаная юбілею пастаноўкі «Ідылія» – знамянальнай з'явы ў гісторыі нацыянальнага і еўрапейскага мастацтва. «Гэтая ўнікальная з'ява была тэарэтычна прааналізавана і музычна праілюстравана захаванымі фрагментамі оперы, а таксама іншымі творамі Манюшкі», – сказаў Фралоў. У вечарыне прынялі ўдзел вядомыя беларускія музыканты Віктар Скарабагатаў, Анна Каржанеўская і трыо «Вытокі».

Акрамя таго, у рамках юбілею прэм'еры «Ідыліі» аб'яднанне «Эўрапейскі шлях» плануе правесці шэраг мерапрыемстваў. Сярод іх – экскурсія па памятных мясцінах Мінску і яго наваколля, што звязаны з жыццём і творчасцю Дуніна-Марцінкевіча і Манюшкі, а таксама вечарына, на якой будзе паказаны слайд-фільм аб вядомых беларускіх сядзібах XIX стагоддзя і праблемах іх захавання. На жаль, у Мінску захавалася няшмат помнікаў гісторыі і архітэктуры, якія нясуць памяць пра стваральнікаў музычнага спектаклю, які ўвайшоў у гісторыю беларускай музыкі і мінскага культурнага жыцця. Аднак і Верхні горад, і кафедральны касцёл, і лошыцкая сядзіба могуць нагадаць пра постаці творцаў.

Марат ГАРАВЫ

# Міжзем'е Джона Толкіена

*Ужо ў старасці Толкіен апавядаў, што ідэя Міжзем'я, магаў, эльфаў, кольцаў, якія даюць уладу, чорных рыцараў, хобітаў і гномаў прыйшла да яго яшчэ ў юнацкія гады, у часе Першай сусветнай вайны, калі ён салдатам сядзеў у траншэі на перадавой лініі, з гулам кананады ў вушах і з жахам у душы...*

Менавіта там, дзе выбухалі бомбы і грукаталі кулямёты, Джон Рональд Рэул Толкіен, які нарадзіўся ў 1892 годзе ў Паўднёвай Афрыцы, будучы дацэнт Оксфардскага універсітэту ў галіне англійскай мовы і англійскай сярэднявечнай літаратуры, чалавек спакойны і даволі суровы на выгляд, зрабіў першы крок у сваё казачнае каралеўства. Зачараваны свет, напіша ён пазней, – «гэта небяспечная краіна, поўная сілкоў для неасцярожных і пастак для смельчакоў». Вайна, пад знакам якой вялікая касмалогія Толкіена набыла канкрэтныя рысы, стала змрочнай, але красамоўнай музай для маладога салдата, які цалкам акунуўся ў яе, разважаючы пра эльфаў і драконаў.

У адрозненне ад усіх казачнікаў, якія яму папярэднічалі, ад Ганса Хрысціяна Андэрсена да братоў Грым, Толкіен не абмяжоўваўся стварэннем новых гісторый ці збіраннем вуснай народнай творчасці і старадаўніх пісьмовых традыцыяў. Ён стварыў цэлы сусвет, які паслужыў цудоўным абрамленнем для той галоўнай ідэі, што зачароўвала яго з самага дзяцінства. Але, без сумніву, менавіта вопыт вайны падказаў яму гэткае абсалютнае заглыбленне ў радыкальную утопію, утопію дзяцей, якія слухаюць казкі з шырока расплюшчанымі вачыма, зіхоткімі ад здзіўлення і жаху. Яго казка прыняла форму неагляднага свету, нават цэлага космасу, са сваёй гісторыяй, сваімі мёртвымі і жывымі мовамі, народамі, відамі жывёлаў, сваёй геаграфіяй і культурным сцэнаром, выштукаваным да кожнай дэталі і кожнай рыскі з гэткай упартасцю, якая іншым, але толькі не яму, магла б падацца вар'яцтвам. Свет, насычаны падзеямі, нябеснымі сагамі і змрочнымі ценямі. Карціна гэткая завершаная, гэткая чароўная, што ашаламляе таго, хто надоўга запыніцца на ёй свой позірк. Міжзем'е становіцца гістарычным светам, не менш рэальным, чым тыя, якія падаюцца ў школьных падручніках, нават са сваімі не менш рэальнымі небяспекамі і жахамі. Сусветная вайна загартавала гэты сусвет у крыві тысячаў забітых і ў тых, хто засталіся жывы.



Толкіен пісаў ліхаманкава ў падзёртых сшытках у хвіліны, калі кроў мяшалася з потам. На гэтых скамечаных старонках эльфы спараджалі дзівосныя творы, самымі гожымі з якіх былі тры каштоўныя камені – сільмарылы. Іх хараство выклікала зайздрасць Мелькора – аднаго з «боствАў»-айнур, і сярод эльфаў адбыўся падзел. Частка іх пакінула Сапраўдны Захад, прыстанішча айнур, і перабралася на землі па той бок мора, дзе ўжо жылі першыя людзі, а на ахопленым полымем поўдні панавалі цёмныя пякельныя сілы. Адрываючы позірк ад сваіх старонак, Толкіен бачыў, як градам сыпліцца бомбы, як жывых людзей, з плоці і крыві, разносіць на кавалкі д'ябальская сіла дынаміту. Але багі, разважаў Толкіен, заглыбляючыся ў свой свет, узіраючыся ў свае нататкі, нічога не хацелі красці. Менавіта Зло, спачатку ўвасобленае ў адным з айнур – Мелькору, потым – у яго вучні Саурону, заразіла эльфаў думкай пра зазнаную несправядлівасць. Мелькор выкраў каштоўныя сільмарылы, паклаўшы гэтым пачатак вайны за іх, вайны такой жорсткай, што яна ўскалыхнула Міжзем'е на цэлую эпоху. Урэшце Мелькора перамаглі і знішчылі, але семя ганарлівасці было ўжо кінута ў падрыхтаваныя душы, і толькі нешматлікія эльфы пасля вайны вярнуліся дамоў, на Сапраўдны Захад. Бальшыня засталася ў Міжзем'і, выношваючы ў сабе нянавісць і лютасць. Яны пазналі смак крыві ў бітвах, як і салдаты сусветнай вайны, шмат хто з якіх пасля апынуўся ў шэрагах ваяўнічых радыкалаў – камуністаў у Расіі, фашыстаў – у Італіі, нацыстаў – у Германіі. Эльфы выкавалі пярсцёнкі Улады: хто валодаў імі, мог кіраваць усімі каралямі, як самых эльфаў, гэтак людзей і гномаў. І адзіны з усіх меў д'ябальскую ўладу над астатнімі. Якраз гэтага галоўнага пярсцёнка і прагнуў Саурон.

Толкіен, безумоўна, думаў пра сваю Англію, спакойную і буржуазна прыстойную, нягледзячы на вайну, і ўсё ж атачаную ворагам, як Сапраўдны Захад ордамі Саурона, — калі акрэсліваў схему таго, што праз пэўны час стала першай яго кнігай. «Хобіт» з'явіўся на свет толькі ў 1937 годзе. Хобіты, — прыдуманы казачнік на фронце, сярод стогнаў параненых і праклёнаў жывых – гэта істоткі маленькага росту, зусім як дзеці, і гэткія ж бязвінныя і жартаўлівыя. Іх краіна была на поўначы, і яны жылі мірна, папальваючы свае люлькі і апавядаючы паданні пра старадаўнія часы, займаліся гандлем і ладзілі вясёлыя святы, нічога не ведаючы пра войны і няшчасці. Так было, кажуць Толкіенавы аналы, і калі выбухнула Другая Вайна за Пярсцёнак.

Толкіену патрабавалася амаль дваццаць гадоў, каб напісаць «Валадара Пярсцёнкаў», але ўсё было вырашана і прызначана, дзень за днём, падзея за падзеяй, яшчэ ў траншэях 1917 году. Усё было прадвызначана там. Азіраючыся навокал, сярод трупаў і калекаў, сярод выбухаў, бедстваў і панікі, Толкіен прыдумаў сваю сумную і праўдзівую сагу пра ўладу, выпісваючы амаль з фатаграфічнай дакладнасцю кожную дэталь уяўнага жыцця.

Ён памёр у Хэмпшыры 2 верасня 1973 году. А «Валадар Пярсцёнкаў», разам з іншымі творамі таямнічага зместу, неўзабаве па сваім з'яўленні стаў евангеллем першых амерыканскіх хіпі, як белых, гэтак і чорных, евангеллем Чарльза Мэнсана і абаронцаў міру ва ўсім свеце. Пазней яе прынялі як Біблію сучасныя антыглабалісты. Бо Вайна Пярсцёнка, грозным ценем якой на гэтай зямлі сталі абедзве сусветныя вайны, не скончылася і не скончыцца ніколі. І скон свету, ва ўяўленні Толкіена, вялікага фантазёра і мараліста, увесь час асвятляўся спалохамі выбухаў і стрэлаў, якія трывожылі неба над траншэямі, дзе панаваў боль вайны.

«Il Nuovo»

СПОРТ

## Беларускія біятланісткі ўвайшлі ў дзесятку лепшых

Дзве беларускія біятланісткі ўвайшлі ў дзесятку лепшых на шостым этапе Кубку свету, апошнім перад Алімпійскімі гульнямі, які праходзіць у італьянскім Антхольцы. У мінулыя выхадныя гонку на 15 кіламетраў Вольга Назарава і Алена Хрусталёва завяршылі, адпаведна, на 4 і 7 месцах. Такіх выдатных вынікаў у найноўшым беларускім жаночым біятлоне яшчэ не было. Вольга Назарава, прайшоўшы апошні агнявы рубеж, захоўвала трэцюю пазіцыю, аднак на фінішным адрэзку прайграла саперніцы са Славеніі 12 секунд. Маладая біятланістка Алена Хрусталёва, нягледзячы на два промахі ў стральбе са становішча стоячы, заняла 7-е месца, апярэдзіўшы многіх вопытных спартсменак.

Гэтыя дасягненні не выглядаюць менш вартымі праз тое, што ў Антхольц не прыехалі найлепшыя спартсмены расійскай і нямецкай зборных, а таксама лідэр агульнага заліку Кубку свету, шведка Магдалена Форсберг.

У сваім інтэрв'ю Вольга Назарава адзначыла, што напярэдадні Алімпіяды ёй быў неабходны «эмацыйны ўсплёск», і цяпер яна ўпэўнена ў сваіх фізічных магчымасцях.

**Юрый ФЁДАРАЎ**

## Перамаглі каманду Літвы

Мужчынская зборная Беларусі па гандболе завяршыла выступленні ў адборачным турніры чэмпіянату свету 2003 году. 27 студзеня ў Мінску ў заключным матчы групавога этапу яна перамагла каманду Літвы з лікам 26:22 (першы тайм – 14:9). Мячы ў беларусаў закінулі Уладзімір Гольдзін — 8, Іван Броўка — 7, Вадзім Лісіца, Аляксей Усік — па 3, Уладзімір Клімавец — 2, Андрэй Клімавец, Максім Няхайчык, Андрэй Сіняк — па 1.

24 студзеня, перамогшы беларусаў дома (25:22), зборная Літвы датэрмінова забяспечыла першае месца ў групе і выйшла ў вырашальную стадыю адборачнага турніру, таму нядзельнае паражэнне ў гульні не адбілася на яе лідэрстве. У другім матчы 1-й еўрапейскай адборачнай групы гандбалісты Латвіі перайгралі ў гасцях балгарскую каманду — 30:27. Выніковае становішча: Літва — 10 ачкоў, Беларусь — 8, Латвія — 6, Балгарыя — 0.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## Баскетбалісты зборнай Беларусі атрымалі перамогу

Першую перамогу атрымалі баскетбалісты зборнай Беларусі ў паўфінальным турніры чэмпіянату Еўропы 2003 году. На пляцоўцы мінскага Палацу спорту яны перамаглі каманду Польшчы з лікам 78:67 (14:17, 23:14, 25:25, 16:11). Лепшым у складзе гаспадароў стаў Руслан Байдакоў, які набраў 17 ачкоў.


Фота IREX/ProMedia

У Аляксея Пынцікава 16 ачкоў, Уладзіміра Верамеенкі — 10, Уладзіміра Шарко — 8, Дзмітрыя Кузьміна і Кірыла Місючэнкі — па 7, Мікалая Аляксеева — 6, Ягора Мешчаракова — 5, Арсенія Кучынскага — 2.

Вынік сустрэчы быў не прадказальным аж да апошняй чвэрці. У канцы першай чвэрці беларусы прайгравалі з лікам 9:16, але ўжо на 5-й хвіліне другой чвэрці (кожная з іх доўжыцца 10 хвілін) вялі – 27:19. У пачатку трэцяй чвэрці палякам зноў удалося выйсці наперад — 41:39, а потым 47:45, аднак на працягу некалькіх хвілін яны адпусцілі беларускую каманду на 5 ачкоў (50:55) і далей задавольваліся роллю тых, што даганяюць. Варта адзначыць, што больш за трэць ачкоў (25) зборная Польшчы набрала дзякуючы дакладнаму выкананню штрафных кідкоў (з 36 спробаў). Зборная Беларусі кідала штрафныя 19 разоў, але поспеху дасягнула толькі ў 11 спробах. З 20 спробаў зрабіць трохачковы кідок гаспадарам удаліся толькі 7 (палякам – 6 з 14).

Як заявіў на пасляматчавай прэс-канферэнцыі галоўны трэнер зборнай Беларусі Аляксандр Барысаў, поспех прыйшоў да каманды «дзякуючы найвышэйшай мабілізаванасці, жаданню атрымаць першую перамогу на турніры наагул і ў родных сценах, у прыватнасці». Паводле яго словаў, патрэбны вынік забяспечыла строгая гульня ў абароне, што не дазволіла палякам набраць нават 70 ачкоў.

Нягледзячы на перамогу, зборная Беларусі засталася на апошнім (шостым) месцы ў групе D. Пасля 5 тураў на яе рахунку 6 ачкоў. Матчы другога кола паўфінальнага турніру пройдуць у лістападзе 2002-га і студзені 2003 году.

**БелаПАН**

# Шляхетны тавар для нішчых

### «Made in Zachad»

Заробка сярэднестатыстычнага беларуса хапае на ежу і аплату камунальных паслуг. Але ж сярэднестатыстычны беларус (і асабліва беларуска) някепска апранутыя. Бальшыня беларусаў купляе вопратку і абутак на рынках (30% тавараабароту прыходзіцца на рынкавы сектар эканомікі). І гэта выклікае непакой у дзяржсектара, у сувязі з чым уведзена забарона на пашырэнне існуючых рынкаў і будаўніцтва новых, у прыватнасці, каля крамаў. Але гэта не азначае, што ў нашу краіну перастануць завозіць танны турэцкі ці кітайскі шырспажыў.

Калі паходжання турэцкага і кітайскага шырспажыву ніхто не ўтойвае, то вялікі сумнеў выклікаюць тавары з лэйбамі фірм Францыі, Нямеччыны, Іспаніі, Англіі. Пагутарыўшы з дасведчанымі людзьмі, высвятляеш, што амаль уся «Еўропа» вырабляецца ў Польшчы. Звычайна гэта дробныя майстэрні, дзе працуюць жанчыны з Беларусі, Украіны, Літвы, Расіі. Працуюць за невялікія грошы, што адпаведна адбіваецца на коштах. Лякалы фірмовых рэчаў выраблююцца па-пірацку, таму аб'ектыўна гэтыя вырабы не могуць быць дарагімі.

### Купляйце беларускае, калі хопіць грошай

Попыт на айчынную прадукцыю лёгкай прамысловасці спаў, а на долю імпартнай прыходзіцца амаль 40%. Яшчэ з савецкіх часоў, калі былі 2-3 мадэлі бялізны жахлівага дызайну, але дастаткова высокіх спажывецкіх уласцівасцяў, захаваліся традыцыі выпускаць якасную прадукцыю. Цяпер з'явілася мноства мадэляў, высакаякасных імпартных тканін, захаваліся кваліфікаваныя працоўныя кадры. Аднак беларускія тавары на 20-30% даражэйшыя за расійскія аналагі. Так адбываецца таму, што ў Расіі і Беларусі розныя прынцыпы фармавання цэнаў. У нас даражэйшыя энергарэсурсы, большы падатковы цяжар. Што б там ні казалі аб стрымманні інфляцыі, яна вышэйшая, чым у Расіі. А ўлічваючы, што амаль усе нашы прадпрыемствы мусяць працаваць на пазыках, то і працэнтныя стаўкі растуць разам з інфляцыяй – усё гэта ўлічваецца ў сабекошце. А таму і розьнічныя цэны «кусаюцца». Пакуль мы прайграем расіянам толькі па кошце прадукцыі. Хутка пачнем і па якасці, бо там укараняюцца новыя тэхналогіі і адчувальны прыток інвестыцый, а ў нас пакуль што няма прычын для аптымізму.

### Спажывецкі патрыятызм

Колькі разоў, будучы ў Польшчы ці ў Латвіі, я дзівілася там, як людзі шануюць сваё. Усё: гісторыю, культуру, мову і тавары айчыннай вытворчасці. Не, ніхто не казаў, што нешта там дрэнна ў Італіі, але вось і польскае не горшае, калі не лепшае. У нас жа прынята ганіць усё сваё і схіляцца. Пачатак рынычных адносін большасць суайчыннікаў успрымае як магчымасць пайсці на базар і набыць імпартную рэч. А тое, што ў нас адчыніліся сумесныя прадпрыемствы па выпуску абутку, парфумы, дый тая ж швейная прамысловасць не самая горшая, засталося незаўважаным. Любы паляк раскажа, у колькі краін свету экспартуецца тая ці іншая прадукцыя іхніх прадпрыемстваў. А хто з нас можа сказаць, у якіх краінах жанчыны з задавальненнем набываюць «Мілавіцу»? Колькі разоў было, калі ўжо нават на беларускія сукенкі ці курткі прышывалі замежныя этыкеткі і прадавалі па «замежных» коштах.

Безумоўна, на гэтай псіхалагічнай хваробе трымаецца нямала вытворцаў. Прыкладам, польская паліцыя вядзе барацьбу з падробкамі, канфіскуе мясцовы тавар, на якім бачыць фірмовыя знакі знаных сусветных фірмаў. Але вытворцы вынайшлі новую методыку падману паліцэйскай пільнасці. Усе патрэбныя маркі, значкі, наклейкі, упакоўка дадаюцца пры перавозках тавару, проста на шашы ў фуры садзяцца аддзелы спецыяльна навучаных жанчын, якія надаюць майкам,


Фота Ул. ШЛАПАКА

джынсам, сукенкам неабходную «шляхетнасць». Тавар вязуць у Расію, адтуль да нас. А вырабляецца недзе ў навакольлі польскага Слупска (адзежа з маркай *Diesel*) ці Чэнстахова (красоўкі *Adidas*, *Puma*), ці Жэшува і Мелеса (парфюмерыя *Dior*, *Chanel*, *Nina Ricci*).

| КОШТЫ (У ДАЛЯРАХ) НА АРЫГІНАЛЬНЫ І ПАДРОБЛЕНЫ ТАВАР У САМОЙ ПОЛЬШЧЫ: | | |
|---|---|---|
| Кашуля Big Star | 7,5 | 2 |
| Джынсы Levi Strauss | 75 | 13 |
| Красоўкі Gino Rossi | 100 | 18 |
| Духі Giorgio Armani | 75 | 12 |

### Што нам застанецца?

На жаль, мала падставаў думаць, што нешта зменіцца ў лепшы бок. Усе размовы аб рынычных адносінах і прадпрымальніцтве – усяго толькі размовы. Амаль усе краіны прайшлі аднолькавы шлях да высокага ўзроўню эканомікі. Дзе зараз усе нашы прадпрымальнікі, вядома – хто з'ехаў, хто за кратамі. У эканоміку дзяржавы, дзе пануе страх і непрадказальнасць, ніхто не захоча ўкладаць свае грошы. Таму і едуць беларусы з далярамі ў кішэні ў Польшчу ці ў Турцыю. А беларускія прадпрыемствы тым часам купляюць расійскія бізнесоўцы, спадзеючыся, што іх абароняць законы сваёй краіны.

### Што кажуць людзі?

**Алена, гандлярка (курткі, джынсы):**

– Многія чамусьці думаюць, што асабіста сама я еду ў Турцыю і нешта прывожу. На самой справе тыя, хто ездзяць, самі не гандлююць. Нас толькі на гэтым рынку пяць чалавек працуе на аднаго, а яшчэ ў яго ёсць «кропкі» на іншых рынках. У нас цяжка працаваць – праверка за праверкай. То падатковая, то санэпідстанцыя, а горш за ўсё – мянты. Гэта яны прымусілі, каб у нас абавязкова былі цэннікі. Усе мянты як мянты, а фрунзенскія і да цэннікаў чапляюцца.

**Павел, гандляр (сукенкі, блузкі і інш.):**

– Часы звышдаходаў як у нас, гандляроў, так і ў пакупнікоў даўно скончыліся. Не сакрэт, што багатыя людзі на рынку не купляюць вопратку. Яны ходзяць у нашы буцікі, а часцей – купляюць усё за мяжой. У Англіі будзе сапраўдная «англія», а не сшытая ў Польшчы. Дык вось, пра даходы. Ведаеце, у жанчын такі зуд адзець новую сукенку, што яна гатовая на ўсялякія хітрыкі. Не раз было, калі, набыўшы сукенку ў чацвер, у нядзелю прыносіла назад: маўляў, не падышло. Усё зразумела: схадзіла ў госці, і сукенка больш не патрэбная. Праз тыдзень ісці ў іншыя госці, яна тое самае вытварыць з іншым гандляром. Усё ад беднасці...

**Святлана, гандлярка (працуе ў краме):**

– Бясспрэчна, кошты на асобныя групы айчыннага адзення высокія. Таму людзі ідуць на рынак. Няхай усе гэтыя калгасніцы і ідуць туды, бо няма сіл слухаць, як яны лаюць добрыя рэчы толькі таму, што яны ім не па кішэні. Я і сама неяк купляла турэцкую бялізну і прыйшла да высновы, што чым турэцкая танная, але аднаразавая бялізна, то лепш свая дарагая, але якасная.

**Наталля, швачка ў атэльe:**

– Самыя непажаданыя і агідныя заказчыкі – тыя, хто прыносіць на рамонт адзенне, прыдбанае на рынку. Вельмі кепская якасць, нават калі заплачаны добрыя грошы. І такая жанчына не разумее, што каб паменшыць у поясе на пяць сантыметраў, трэба амаль усю сукенку перашыць. Атрымлівацца дарагі заказ, прыходзіцца выслухоўваць лаянку: «Я дарагую рэч купіла, а вы мне тут...»

**Васіль, службовец:**

– Абутак, гарнітуры, бялізну купляю толькі ў крамах. Куртку, швэдрык магу купіць і там, і там, але толькі калі на базары танней. Парфуму купляю ў прыватных прадпрымальнікаў.

**Валянціна Антонаўна, пенсіянерка:**

– Вядома, усё купляем на рынках. Тут такія прыгожыя рэчы. А што можна купіць у нашых крамах, там жа нічога няма. Я ўжо і не заходжу туды, у нас вось рынак побач, раней жа толькі «Дынама» было.

**Таццяна, бухгалтарка:**

– Неяк я паскардзілася прыяцельцы, што малы заробак. Дык яна кажа: трэба ціпла апранацца. Нібыта на мне сукенка за 35 даляраў і чаравікі за 25. А на самой справе сукенка ў пераліку на даляры каштавала прыкладна 9, а чаравікі – 17. Яна не паверыла, сказала, што яе суседка гандлюе на рынку менавіта такімі рэчамі. Я неяк сама хацела набыць кобрынскую куртку, але пакуль атрымала заробак, іх не стала ў краме. Потым я ўбачыла гэтыя курткі з іншымі этыкеткамі на рынку, і каштавалі яны ў два разы даражэй. Таму я купляю рэчы ў крамах. Я сама зарабляю грошы, таму не магу сабе дазволіць купляць за 100 даляраў плашч, немаведама дзе пашыты.

**Андрэй (працуе на Беларускім радыё):**

– А я ніколі не купляю тавары – адзенне, боты, цыгарэты, ды іншае – у дзяржаўных крамах, хоць іх называюць акцыянернымі. Там усё значна даражэй, выбар меншы, прадаўцы злосныя, як былі пры савецкай уладзе, а прадаюць там тое ж самае, што і на рынку. Бо дзе ж яны возьмуць іншых пастаўшчыкоў? Таму ўлада і марыць прыдбаць увесь гандаль у свае рукі, каб большыя кошты прыносілі ёй больш грошай праз розныя падаткі. А мне не хочацца, каб улада мяне заганяла ў сваю гандлёвую сістэму.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1115 Нумар падпісаны ў друк 29/01/2002 (15:00) Наклад — 8.150